# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №29 (150) 1 ЛІСТАПАДА 1999г.


## Мітынг у Курапатах

Беларусы паміналі Дзядоў. Паводле традыцыі, якая склалася за 10 гадоў, пабываўшы з раніцы на родных магілах, людзі пад абед ехалі памянуць ахвяраў расейскай і савецкай акупацыі на месцы масавых пахаваньняў. Улады забаранілі традыцыйнае шэсьце ў гэтым годзе. Больш за тое, «блакітныя мундзіры» на чале з Чыкіным схапілі дзясятак чалавек з тых, што сабраліся на плошчы Якуба Коласа, каб адтуль рушыць у Курапаты. (Увогуле ў цэнтар гораду сьцягнулі некалькі тысячаў салдатаў унутраных войскаў.) У іншых месцах гораду людзей не чапалі: групкамі, якія збольшага складаліся з старых і моладзі, менчукі дабіраліся да Зялёнага Лугу ад будынку КГБ, дзе ў 30—80-х гадах мучылі, ад парку Чалюскінцаў, дзе расстрэльвалі ворагаў камуністычнага рэжыму, ад Акадэміі Навук, ад Маскоўскіх могілак, дзе былі ўскладзеныя кветкі да магілаў слаўных суайчыньнікаў. Каля сотні чалавек усё ж прайшлі ад могілак да Курапатаў арганізавана, пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, са сьвечкамі й кветкамі. Вельмі шмат людзей прыехалі машынамі.

Людзі разбрыліся па жалобным лесе, ставілі сьвечкі там, дзе паабсядала зямля — там, дзе ляжаць сотні людзей. Гісторыкі-аматары прынесьлі й выставілі стэнды са здымкамі, што сьведчаць пра акты вандалізму, калі злодзеі раскопвалі магілы.

Адбыўся мітынг-рэквіем, у якім узялі ўдзел каля 400 чалавек. Айцец Андрэй (Абламейка), сьвятар уніяцкай парафіі Сьв.Язэпа, адслужыў памінальную імшу, казанік з эвангелісцкай царквы сказаў слова памяці.

Сярод людзей сноўдалі дзясяткі агентаў спэцслужбаў у цывільным, выглядаючы каго ім трэба з 17 кастрычніка. Прысутнічалі многія замежныя журналісты, рыхтуючы рэпартажы пра беларускі дзень Дзяды. У каталіцкіх касьцёлах і ўніяцкіх цэрквах памінальныя набажэнствы адбудуцца ў аўторак, 2 лістапада.

Барыс Тумар

Працяг тэмы на старонцы 8.




Фота Анатоля Клешчука



Фота Уладзімера Шлапака

Мая Кляшторная ў Курапатах: можа тут ляжаць яе родныя

## Кучма—Сіманенка

***Вы, чытаючы гэты нумар газэты, ужо ведаеце папярэднія вынікі ўкраінскіх прэзыдэнцкіх выбараў. Мы ж яшчэ з усёй дакладнасьцю ня ведаем. Ведаем, аднак, што ў галасаваньні ўзялі ўдзел 69,8% выбарцаў. Рэальны паказчык, зусім не беларускія 85 дутых працэнтаў.***

Паводле нашых зьвестак, Кучма быццам бы набірае пад 40% галасоў, кандыдат камуністаў Сіманенка — каля 25%, скандалістка Вітрэнка і сацыяліст Мароз ідуць трэцяй і чацьвертым, ад іх адстаў кандыдат нацыянальнай патрыятычнай правіцы Марчук і далей ужо з зусім нязначнымі працэнтамі кандыдаты расколатага Руху Кастэнка і Ўдавенка. Іншыя 6 кандыдатаў амаль нічога не скрысталі. Але гэтыя зьвесткі зусім не дакладныя, засьцерагаюць на ўкраінскай службе радыё «Свабода».

Кіеўскі беларус Сяргей Бяльковіч таксама паведамляе, што на сталічных дзялянках перамагаюць Кучма й Сіманенка, а адразу за імі йдуць Марчук і Мароз, прычым тут адрыў зусім не вялікі. У Львове, паводле зьвестак прэсслужбы Львоўскай мэрыі, наперадзе ідуць Марчук, Кучма й Мароз. З 35 выбарцаў украінскай амбасады ў Менску пераважная большасьць падтрымала Кучму.

Што будзе ў другім туры? Вядомая паэтка, аўтар песьні «Мы памрэм не ў Парыжы» Наталка Білацэрківец кажа, што ў выпадку дуэлі Кучма—Сіманенка яна асабіста будзе галасаваць супраць абодвух кандыдатаў: «Ясна, што пры такім раскладзе Кучма ў любым разе пераможа, але я лічу сваім маральным абавязкам не аддаваць голасу ні таму, ні таму». Украінскі закон, дарэчы, не вымагае для перамогі абсалютнай, але проста адноснай большасьці галасоў у другім туры.

Наш кіеўскі аўтар Максым Стрыха не выключае яшчэ аднаго варыянту: «Адзіным рэальным супернікам Кучмы мог бы стаць Мароз. Сіманенка як камуніст ня мае шанцаў проці Кучмы. Паводле нашага заканадаўства, кандыдат, які прайшоў у другі тур, на працягу тыдня можа зьняць сваю кандыдатуру, і тады аўтаматычна супернікам Кучмы робіцца той, хто заняў трэцяе месца. Але яшчэ невядома, ці абыдзе Мароз Вітрэнку, дый малаверагодная ахвярнасьць Сіманенкі на карысьць нацыянальнага адзінства».

Парушэньні выбарчага заканадаўства былі, але нешматлікія. Яны тычыліся доступу кандыдатаў да сродкаў масавай інфармацыі, амаль непазьбежных ва ўмовах слабасьці прыватных мэдыяў, значнага ўмяшаньня дзяржавы ў іхную дзейнасьць і амаль манапалізацыі дзяржаўнай тэлебачаньня.

Як паводуць сябе кандыдаты напярэдадні другога туру Кучма—Сіманенка, калі трэ будзе выбіраць між бяздарным і камуністым? Верагодна, дэмакратычныя кандыдаты не заклічуць галасаваць ні за таго, ні за другога, але папросту здымуць сваіх назіральнікаў з участкаў, тым самым разьвязаўшы Кучму рукі ў справе кантролю за выбарамі і пазбавіўшы камуністаў — арганізатараў галадамору 30-х, вынішчальнікаў уніяцтва і будаўнікоў Чарнобылю — апошніх шанцаў на рэванш.

Працяг на старонцы 2

## Мікола Статкевіч галадае 15 дзён

Знаходзячыся пад вартаю ў сьледчым ізалятары УЖ 15/І31 Менску, на Валадарцы, лідэр Народнай Грамады Мікола Статкевіч ужо 15-ы дзень трымае галадоўку пратэсту. Яго затрымалі ўвечары пасьля «Маршу Свабоды» як арганізатара. Як вядома, сацыял-дэмакраты-Народная Грамада не прызнаюць Лукашэнку прэзыдэнтам, бо лічаць яго нелегітымным. Таму, а таксама дзеля таго, што ягоны арышт — яўна палітычны, Статкевіч і абвясьціў галадоўку.

Намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка, які галадоўкаю дабіўся вызваленьня з Валадаркі, кажа, што пад час галадоўкі галоўнае — больш дыхаць сьвежым паветрам (не прапускаць прагулак), піць больш вады, карыстацца клізмаю для ачысткі арганізму.

Прыкладна на 10—11 суткі, кажа, зьнікае пачуцьцё голаду, а на 15-ыя ўзьнікае нейкая лёгкасьць, своеасаблівая эўфарыя. Пасьля гэтага выходзіць з галадоўкі ўжо вельмі цяжка. Падзеньне ціску ж і страта працаздольнасьці адбываецца крыху пазьней, дзесьці на 23—25-ыя суткі галадоўкі.

Статкевіча наведваюць наша слаўная адвакатка Таццяна Станкевіч, што ўжо не аднаго добрага чалавека абараняла, і ягоная жонка Валянціна, што схацела быць мужавым грамадзкім абаронцам.

На 11-я суткі турмы Статкевіча за галадоўку перавялі ў ПКТ, то бок карцэр, як злоснага парушальніка рэжыму. Кінуўшы зьнясіленага чалавека ў камору з бэтоннаю падлогаю і вулічнаю тэмпэратурай, турэмшчыкі хочуць зламаць волю Статкевіча, каб ён спыніў галадоўку. Сілком яго яшчэ не кармілі.

Мы з Вамі, спадар Мікола, трымайцеся, не паддавайцеся!

Аляксей Шыдлоўскі



Фота «Белорусская Деловая Газета»

**Галоўным вынікам другой сэсіі VI зьезду БНФ і ягонай дачэрняй партыі стала абраньне на старшыню Вінцука Вячоркі. Ён атрымаў 228 галасоў «за» пры 11 «супраць». С.3.**

**Нарыс Жана Ван'ё пра тое, якую ролю ў нашым жыцьці маюць тыя, каго мы звыклі называць «разумова адсталымі». С.11.**

навіны зь Беларусі за суботу й нядзелю

## З турмы на зьезд

У суботу даседзеў за Марш Свабоды Анатоль Лябедзька. Проста з Акрэсьціна яго павезьлі ў палац «Сукно» на зьезд БНФ, і там ён, яшчэ ня зьбіўшы зь сябе астрожнага пылу, кінуўся ў дыскусіі. Хай бы сваю АГП далучаў да новага Фронту, усім было б на карысьць. Арыштам Лябедзькі надта абурылася Эўропа — ён жа зьяўляецца спэцыяльна запрошаным у Раду Эўропы.

## Спэкгарда дасталі

Дэніэл Спэкгард напісаў ліст Мясьніковічу, дзе просіць тлумачэньняў: маўляў, што гэныя меў на ўвазе, кажучы, што Захад даў грошы на тое, каб «ламаць, крушыць і падпальваць». Амэрыканскі пасол палічыў гэта зьнявагаю. Мы, піша, за той год надалі Беларусі гуманітарнай дапамогі на 15 мільёнаў даляраў, у тым ліку адных лекаў на 5,8 мільёнаў, а вы паклёпнічаеце. А Мясьніковіч абы-што будзе казаць, абы праўды не сказаць.

## У Расейскім тэатры — шклоўскі самазванец

У Расейскім тэатры Барыс Луцэнка паставіў новы спэктакаль паводле твораў Пушкіна. Называецца «Бяседа пад час чумы», але й з «Завірухі», і з «Анджэля», і асабліва з «Камэдыі пра Барыса Гадунова ды Рыгорку Атрэп'ева» там шмат ёсьць. Гэта і драма, і рок-опэра, і тэатр аднаго актора — Уладзімера Шэлестава, які адначасова грае цара Барыса, фальшывага Дзьмітра, патрыярха, Шуйскага, бажавольнага і яшчэ пару пэрсанажаў. Білеты ў Расейскі тэатар зусім танныя — ад 55 тысячаў рублёў. Ня тое, што ў балет, дзе яны каштуюць усе больш за мільён.

## Інвэстыцыі ў Белаазёрск

Нашы хочуць знайсьці інвэстыцыі на рэканструкцыю Бярозаўскай ДРЭС. Калісьці гэта была перадавая станцыя, да якой ад Бярозы адмыслова падвялі чыгунку і якая працавала на вуглі й мазуце. Цяпер яна састарэла, завальвае ваколіцу сажаю. Дык у Прагу на эканамічны форум краінаў Цэнтральна-Эўрапейскай групы павязуць стратэгічны праект, каб хто даў грошай на рэканструкцыю.

## Выкладчыкі шыраюцца

У маладога выкладчыка Магілёўскае вучэльні культуры на працоўным месцы міліцыя знайшла 60 г марыхуаны, піша БелаПАН. Хто на яго даказаў — ці вучні, ці дырэктар, невядома. Невядома пакуль таксама, ці ён сам тыя каноплі сеяў, ці дзе ў каго перакупіў.

## Даезьдзіліся

Палякі ўвялі абмежаваньне: цяпер беларусам можна будзе да іх езьдзіць не часьцей, чым два разы на месяц. Дасталі беларусы палякаў сваім шпікулянцтвам: цягнулі яны ў Польшчу ўкраінскі шпірт, менскую гарэлку, пінскія запалкі, берасьцейскія лямпачкі, калгасны супэрфасфат, і ўсё на целе, і ўсё пад бялізнаю. Палякі чакалі, чакалі, што нашых якая скула возьме. Анягож. Абрыдла палякам лазіць да нашых цётак пад бялізну. Цяпер, каб напалохаць, таксама вырашылі яны ня толькі сканфіскоўваць кантрабанду, але й даваць кантрабандыстам вялікую кару.

## Віленскія мроі

Тэатар аднаго актора «Зьніч», які кватаруе ў Чырвоным касьцёле, пачаў свой 10-ы сэзон спэктаклем «Віленскія мроі», пастаўленым паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай пра Івана Луцкевіча, ейнае незабыўнае каханьне. Успаміны выдала «Наша Ніва» ў 1994 годзе. Кветку Вітан іграе Галіна Дзягілева.

## Лукашэнка накрычаў на Севярына

У суботу пасьля абеду Лукашэнка прыняў кіраўніка рабочай групы Парлямэнцкай Асамблеі Севярына і небарачку прадстаўніка АБСЭ ў Беларусі Віка. Тыя сталі казаць пра перарваны дыялёг, пра арышты. Тады Лукашэнка даў ім ясную пытлю: «Мы знаем, хто хоча сарваць гэты дыялёг. Мы можам прадставіць вам дакумэнты з усімі прозьвішчамі, у тым ліку і вашымі». Гэты і чорту ў пекле дасьць фаеру.

## МАГАТЭ будзе нас рапсам карміць

У Менск прыяжджаў дырэктар МАГАТЭ Ціхуй Цянь і сустракаўся з Лукашэнкам. Дамовіліся, што гэтае агенцтва па атамнай энэргіі дасьць Беларусі на наступныя два гады 1,2 мільёны даляраў, каб на гэтыя грошы пачалі ў Чарнобыльскай зоне садзіць рапс. Быццам бы рапс усю радыяцыю ўсмоктвае зь зямлі ў сьцябло і лісьце, а кветкі і насеньне застаюцца чыстымі. Пасьля гэтага ў Беларусі ўжо алею ня будзе бракаваць. МАГАТЭ — гэта такая арганізацыя, што пры канцы 80-х хацела, каб беларусы жылі ля самага Чарнобыля, а МАГАТЭ прыяжджала ды глядзела, як яны да радыяцыі прывыкаюцца. А рапс — гэта такая расьліна, што ў чэрвені жоўценькім цьвіце.

## Што раньш было

Сёньня ў Магілёве адкрываюць фэстываль «Залаты шлягер». Прыедуць Зыкіна, Антонаў, Кікабідзэ і яшчэ нейкі Сярэбранікаў. Гэта былі такія сьпевакі ў Савецкім Саюзе.

## Выраджэньне

Збожжа сёлета сабралі 17 ц з гектару, бульбы 96 ц (мех сеем, чатыры зьбіраем), буракоў цукровых — 214 з га, кармавых — 245 з га. Па ўраджаях Лукашэнка нас з Расеяю ўжо зраўняў.

**Барыс Тумар**

## Турэмныя лекі

Хоць маладафронтавец Афнагель і хворы на сэрца, яго ўсё ж засудзілі на 15 дзён астрогу за Марш Свабоды. Адзін чалавек, што зь ім адседжваў, вызваляўся, дык ён зь ім перадаў на волю запіску. Піша, што як у яго балела ў грудзях, дык наглядчыкі ня толькі ня выклікалі доктара, але далі такія таблеткі, ад якіх сэрца стала яшчэ больш балець.

**Тацяна Равяка, «Вясна '96»**

## Будзе з вас газэтаў

У Пінску ўлады не далі дазволу на адкрыцьцё трох новых прыватных газэтаў, сярод іх газэты Пінскага аддзяленьня Гельсынскага камітэту. Адказ прышоў ад уладаў просты: «ужо й так існуе дастатковая колькасьць газэт». No comment.

**Зь Пінску — Юрась Чарнякевіч**

# «Маньяка са шпрыцам» злапалі

У ноч з 27 на 28 кастрычніка ў дзіцячым лягеры ў Валожынскім раёне міліцыянт, які ахоўваў тэрыторыю, заўважыў мужчыну, які прыкметамі супадаў з расшукваным ужо амаль паўгады маньяком, што калоў дзяцей шпрыцам зь невядомай вадкасьцю. Ахоўнік папрасіў паказаць дакумэнты, але той дзіўны чалавек, падышоўшы, даў міліцыянту ў морду і паспрабаваў зьбегчы. Міліцыянт не разгубіўся і трапна стрэліў наўздагон, падбіўшы зламысьніка ў нагу, а тады дагнаў і затрымаў. У параненага знайшлі і шпрыц. Цяпер вядуць сьледзтва, і таму імя ягонае не раскрываюць.

Нагадаем, што ўсяго было 8 выпадкаў, калі невядомы маньяк прабіраўся на тэрыторыю дзіцячых лягераў на Меншчыне і Случчыне і рабіў немавед што. Дзякуй Богу, ніводная з пакалатых дзяўчатаў сур'ёзна не заслабла. Апошні раз такое было ў доме адпачынку «Случ» у пасёлку Кірава ў Слуцкім раёне. Зараз ужо разьбяруцца, што, як і нашто.

**Аляксей Шыдлоўскі**

# ШКОЛА: БЕЛАРУСКАЯ ЦІ НІЯКАЯ

У школах краіны закончылася першая чвэрць навучальнага году. Многія сталічныя школьнікі не пакідаюць надзеі адстаяць свае права вучыцца па-беларуску. Чыноўнікі ўсіх узроўняў заяўляюць вучням ды іхным бацькам, што ніхто, маўляў, не забараняе, насамрэч жа робяць адваротнае.

Зьміцер Раманцоў вучыцца ў 16-й менскай школе-ліцэі з трэцяй клясы. Да гэтага хлопчык вучыўся ў 166-й школе, але бацькі змушаныя былі шукаць іншае месца, бо родную мову там замянілі на расейскую.

Выбралі 16-ю як бліжэйшую ад дому, бо ў сям'і яшчэ двое дзяцей, якія ў той год сталі першаклясьнікамі. Два гады ўсё йшло больш-менш нармалёва, але калі Зьміцер пайшоў у пятую клясу, дык матэматыку сталі выкладаць па-расейску. Ані Зьміцер, ані ягоныя бацькі не згадзіліся на гэта й дамагліся, каб хлопчыку матэматыку выкладалі па-беларуску індывідуальна.

Так прайшоў год, і вось сёлета беларуская мова зьнікла і з астатніх прадметаў. Нязгодным з гэтым Раманцовым адміністрацыя школы, а ўсьлед за ёю і кіраўніцтва гарадзкой управы адукацыі прапанавалі перайсьці ў 4-ю школу-гімназію, якая ў іхным Фрунзэнскім раёне фактычна засталася адзінай беларускай школай.

Аднак бацькі Зьміцера Раманцова ня згодныя з гэтым у прынцыпе. Па-першае, школа месьціцца далёка, а калі пераводзіць Зьмітра, дык трэба пераводзіць і дваіх малодшых дзяцей, бо перад імі пасьля пачатковых клясаў паўстане тая ж праблема. Па-другое, Зьмітру ўжо аднойчы давялося мяняць школу з той самай прычыны, і дзе гарантыі, што праз нейкі час не паўторыцца тое ж і тут? Да таго ж, калі дзеці пайшлі ў 16-ю, маці адмыслова знайшла там працу, каб болей часу быць зь імі. І па-трэцяе — гэта, паводле словаў бацькі хлопчыка Ўладзімера Раманцова — самае галоўнае:

"Чаму я павінен плаціць за тое, што я беларус і хачу вучыць сваіх дзяцей па-беларуску, чаму я павінен чым-небудзь ахвяраваць? Мне летась казалі, маўляў, ёсьць жа вывучэньне матэматыкі, паглыблены там курс, ангельскае мовы, людзі ж вось возяць дзяцей сваіх далёка, на канец гораду, і згаджаюцца з гэтым, а чаму вы не згаджаецеся? А чаму я павінен згаджацца? Мае правы гарантаваныя Канстытуцыяй".

Тым часам Зьміцер Раманцоў на выдатна скончыў першую чвэрць, сам сабе перакладаючы расейскамоўныя ўрокі. Псыхалягічна хлопчыку цяжка, бо ён адзін такі. Бацька ягоны тым часам зьвярнуўся да міністра адукацыі Стражава з просьбай забясьпечыць ягонаму сыну беларускамоўнае навучаньне ў 16-й школе. Адказу няма. Што пляпнуе ў такой сытуацыі рабіць сп.Раманцоў?

"Ведаючы ўсіх гэтых людзей, усю іхную палітыку, я не спадзяюся на нешта добрае. Вось дылема: альбо аддаваць некуды ў іншую школу, альбо вучыць тут, у 16-й. Але, відаць, мы ўсё ж вырашым зрабіць па-іншаму. Калі сын ня будзе вучыцца па-беларуску, магчыма, ён ня пойдзе ў ніякую школу".

**Паводле радыё «Свабода», Валянціны Аксак**

# Кучма–Сіманенка

*Працяг са старонкі 1.*

Зь іншага боку, ува Ўкраіны ёсьць досьвед 94-га, калі Кучма быў другім у першым туры, але ў выніку перамог на выбарах. Праўда, ягонае адстаўваньне ад Краўчука не было такім вялікім.

Трэба заўважыць яшчэ, што бессэнсоўная канкурэнцыя і асабістыя амбіцыі кандыдатаў ад Руху, падобна, канчаткова зьдыскрэдытавалі гэтую гістарычную сілу ўкраінскага нацыянальна-вызвольнага руху.

**Барыс Тумар**

вэсткі з Падняпроўя

## Міс чыгункі

Нядаўна чыгуначнікі абралі «міс» Магілёўскай чыгункі. На харавство і так, і гэтак, але надта ласкавая была на сцэне.

## Слабыя

У Прапойскім раёне абсьледавалі людзей і выявілі, што кожны другі мае хворую шчытападобную залозу. У Быхаўскім раёне паводле зьвестак дактароў кожнае чацьвёртае дзіця — хворае.

## Холад

У Магілёве зноў спынілі ацяпленне кватэраў. Кажуць, на двары жарыць. Пахаладнела й вада ў кранах.

## 10000 рублёў салідарнасьці

Магілёўскі праваабарончы цэнтар распачаў акцыю «Салідарнасьць». Ня ўсе здатныя выйсьці на плошчу, ня ўсе могуць адкрыта змагацца, але хоць штосьці зрабіць можа кожны. Таму цэнтар заклікае людзей ахвяраваць невялічкай сумай — 10000 рублёў — на аплату шаленых штрафаў, якія накладвае дзяржава на ўдзельнікаў мітынгаў і дэманстрацыяў. Можна здаваць і больш, хто можа.

**Сымон Глазштэйн**

Фота Уладзімера Шлапака

Вінцук Вячорка і Лявон Баршчэўскі

# БНФ: НОВЫ ЛІДЭР — ВЯЧОРКА

***Другая сэсія шостага зьезду БНФ у менскім ДК «Сукно» канчаткова патлумачыла сытуацыю ў найбуйнейшай беларускай апазыцыйнай партыі. Відавочна, што адбыўся не раскол, як раней меркавалася, а вылучэньне з Фронту адной ягонай часткі — так званых «пазьнякоўцаў». І калі на першай сэсіі ў ліпені галасы дэлегатаў падзяліліся пароўну, дык цяпер перавага «вячоркаўцаў» была відавочнаю.***

У мінулую суботу, 30 кастрычніка, а 10-й раніцы ля ўваходу ў Дом культуры тоўпілася каля сотні дэлегатаў, а таксама журналісты і шараговыя франтаўцы. Іх не пускалі ў будынак з розных прычынаў: дэлегатаў — бо не ставала нейкіх сьпісаў, шараговых і журналістаў — бо такое было распараджэньне прапазьнякоўскай часткі кіраўніцтва БНФ: Чахольскага, Беленькага, Крывароты да старшыні мандатнай камісіі Кароліка. Людзі мерзьлі на вуліцы, затрыманыя дружынаю Алеся Чахольскага, нягледзячы на заклікі Вячоркі і Баршчэўскага прапусьціць іх.

Зьезд пачаўся а дванаццатай. Папярэдне дэлегатам быў разданы «пагаджальны» факс Пазьняка, дзе ён прапанаваў сфармаваць Сойм БНФ з роўных частак прадстаўнікоў абодвух бакоў. Але была і ўмова: старшыня — сам Пазьняк.

Весьці паседжаньне выпала Вінцуку Вячорку. Першае галасаваньне было пра тое, каб пусьціць у залю журналістаў. «За» — прыкладна 150 чалавек з 200 прысутных на той момант. Дружына Маладога Фронту ўзялася выконваць гэтае рашэньне, тымчасам А.Чахольскі заблякаваў уваход сваімі людзьмі і адмовіўся выконваць рашэньне зьезду. Узьнікла патасоўка. У выніку зьмерзлыя на вуліцы патрапілі ў фае.

Тымчасам у залі разгортваліся падобныя падзеі. На сцэну выскоквалі прадстаўнікі «пазьнякоўцаў» з абразамі ў бок апанэнтаў. Юры Беленькі выхапіў у Вячоркі мікрафон і аб'явіў, што весьці паседжаньне будзе ён. Зразумела, што сп.Вячорка, як чалавек выхаваны, ня стаў усчынаць сварку. У залі пачаўся шум, загучалі абразы, справа вось-вось магла перарасьці ў бойку. Уздоўж сцэны ўстаў ланцуг з хлопцаў-маладафронтаўцаў, якія ўзялі на сябе функцыю дружыны і больш нікога на сцэну не пускалі. Бабулькі-«пазьнякоўкі», што сядзелі ў першых шэрагах, называлі маладафронтаўцаў фашыстамі ды плявалі ў іхны бок. Дзіўна, што людзі, у якіх так багата энэргіі, адмовіліся браць удзел у Маршы Свабоды 17 кастрычніка. Там іхны імпэт спатрэбіўся б больш.

Бэдлам, верагодна, працягваўся б да вечара, але «вячоркаўцы» прынялі рашэньне пакінуць залю. І вось тут «пазьнякоўцаў» чакаў шок. У залі засталося каля 70 чалавек з 320 дэлегатаў зьезду. Ні пра які кворум не магло быць і гаворкі. Тым ня менш, Ю.Беленькі правёў паседжаньне «свайго фронту», на якім былі абраныя старшыня Зянон Пазьняк, намесьнікі і Сойм. Усе 70 чалавек былі разьмеркаваныя па пасадах.

Увечары, а 18-й, пачаўся зьезд «вячоркаўцаў», якіх, дзякуючы кворуму ў 239 чалавек, цяпер і можна лічыць Беларускім Народным Фронтам. Старшынём БНФ стаў Вінцук Вячорка, намесьнікамі: Алесь Бяляцкі, Віктар Івашкевіч, Павал Севярынец, Анатоль Фёдараў ды Юрась Хадыка. Сярод сяброў новаабранага Сойму — духоўныя лідэры Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Артур Вольскі.

Цяпер пытаньні стаяць наступным чынам: дзьве партыі — БНФ і пазьнякоўская КХП — пад адным дахам жыць ня будуць, таму пытаньне нумар 1 — пра памяшканьне Ўправы. Пытаньне нумар 2 — пазыцыя Мінюсту адносна мінулага зьезду. Спрыяньне КХП з боку ўладаў у гэтай справе пацьвердзілася шэрагам прыкладаў. Міністар Сухінін, паведамляючы заяўляльнікам ад БНФ пра тое, што «ўжо аддаў дакумэнты» сп.Папкову, спаслаўся на распараджэньне «зьверху».

Пры ўсёй сваёй важнасьці гэтыя пытаньні, тым ня менш, не затуляюць галоўнага: Беларускі Народны Фронт, які захаваў вернасьць уласнаму статуту і скінуў зь сябе баласт, мусіць распачаць новы ўзьлёт у гісторыі арганізацыі. Калі толькі выбраныя стратэгія ды тактыка не акажуцца памылковыя.

**Аляксей Шыдлоўскі**

# КУДЫ КІНУЦЬ КАМЕНЬ?

Тэма расколаў з папярэдняга нумару «НН» атрымала свой працяг у мінулыя выхадныя на зьезьдзе БНФ. Дакладней, на двух зьездах.

Першы, на які сэктанты не пусьцілі ня толькі журналістаў і няўгодных франтаўцаў, але нават і некаторых сяброў Сойму нядаўна створанай КХП (напрыклад, рэдактара «Пагоні» Міколу Маркевіча), прайшоў бяз кворуму і характарызаваўся шматлікімі падлогамі (пры ўсіх ранейшых закліках З.Пазьняка да маральнае палітыкі — у газэце М.Маркевіча, дарэчы). Другі зьезд, які ў той самай залі адбыўся ўвечары, сабраў кворум, выглядаў, наколькі гэта было магчыма, як адкрыты і цывілізаваны (тут нават каву давалі з бутэрбродамі) зьезд палітычных аднадумцаў, выбраў калектыўнае кіраўніцтва і старшыню — Вінцука Вячорку. Большасьць старых франтаўцаў зрабіла выбар на карысьць другога зьезду. Але ўся ў цэлым гэтая сытуацыя завяршанага расколу прымусіла думаць пра іншае.

Беларускі палітычны спэктар ужо ня дзеліцца на два колеры: чорны і белы — яны і мы. Выбар аднадумцаў становіцца ўсё больш кампрамісным і складаным. Кампрамісы — гэта праверка вашых прынцыпаў на трываласьць. Вы сустракаеце чалавека, які кажа, што галоўнае — скінуць Лукашэнку. Але вы разумееце, што гэта ня мэта, а толькі сродак ці нават толькі адно з наступстваў. І раптам вам робіцца ясна, што адзінае мэты ў вас са «скідальнікам» папросту няма. Больш таго, у вашых прынцыпах (напрыклад, што да роднае мовы) вы з калегам разыходзіцеся (для яго гэта не галоўнае). А гэта значыць, што, акрамя як на Маршы Свабоды, больш нідзе вам разам рабіць няма чаго. Гэтаксама і «за Пазьняка» ці «супраць Пазьняка» сёньня — зусім не праблема прынцыпаў і выбару мэты.

Седзячы на апошнім зьезьдзе БНФ і пазіраючы на прэзыдыюм, асабіста я думаў пра тое, у Беларусі якога з гэтых палітыкаў я хацеў бы жыць. Апазыцыйная Беларусь Пазьняка асацыюецца з учарашнім днём, бо ня мае на мэце пабудову нармальнага грамадзтва. Зрэшты, і імідж гэтай партыі, як для мяне, ня больш прывабны за імідж якогась Лукашэнкі. Хоць, абавязкова трэба сказаць, што ў палітычным спэктры краіны такая партыя проста павінна быць.

Яшчэ адно пытаньне — пра незалежнасьць. Мы будзем за яе змагацца, разумеючы безадноснасьць гэтага паняцьця, але таксама будзем разумець, што яна — ня мэта. Незалежнасьць — сродак будаваньня нашае Беларусі. І вось тут, зноў жа, высьвятляецца, што далей вас з аднадумцам, іншы раз, ня лучыць нічога. Вашыя шляхі зь пераможных барыкадаў вядуць у розныя бакі, бо рознымі аказваюцца жыцьцёвыя, маральныя, а нават і эстэтычныя прынцыпы.

Усё сказанае — тонкая мэханіка, якая паступова выцясьняе з нашага жыцьця ўчорашні брутальнізм і гатоўнасьць крычаць самыя гарачыя словы, пры гэтым, аднак, нічога не робячы. Ленінская «гапонаўшчына», кінутая як абраза ў бок Маршу Свабоды, патыхае нафталінам прызабытай савецкай школы зь яе ўяўленьнямі пра палітычнае мысьленьне і нязьменнасьць сьветабудовы.

Беларусь зьмяняецца. Зьмяняецца і яе палітычны спэктар, які ўжо раскладаецца на дзясяткі колераў. Найважнейшымі ў выбары аднадумцаў сёньня становяцца: адзінства прынцыпаў, узаемны давер і лепшыя якасьці чалавека (хоць бы і ўменьне паводзіць сябе прыстойна). Варта ўсьвядоміць гэта і разабрацца ва ўласных прыхільнасьцях. Бо заўтра тых колераў будуць не дзясяткі, а сотні і тысячы. І той змагар, які ня здолее разабрацца сёньня, заўтра апынецца на чарговым Маршы ў роспачнай сытуацыі, ня ведаючы, у які бок кінуць свой камень.

**Сяргей Паўлоўскі**




## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ У МЕНСКУ

Каб чытаць сьвежы нумар «НН» у дзень выхаду – у панядзелак – і пры гэтым эканоміць час і грошы, аформіце падпіску ў бліжэйшым шапіку «Белсаюздруку», а атрымлівайце газэту можна ў любым менскім газэтным шапіку.

Зь ліпеня 1999 г. падпіску «да запатрабаваньня» прымаюць 32 газэтныя шапікі. Менскі «Белсаюздрук» гарантуе выдачу газэты па падпісным абанэмэнце ў дзень выхаду газэты, а таксама захаваньне не забраных вамі асобнікаў праз увесь падпісны пэрыяд. Кошт падпіскі на «НН» на месяц (з кастрычніка) – **192 000** руб. (4 нумары ў месяц, газэта выходзіць на 12 старонках). Падпіска «да запатрабаваньня» прымаецца да 23 дня перадпадпіснога месяца ў крамах і шапіках «Белсаюздруку» г. Менску. Даведацца і высьветліць няясныя пытаньні можна па тэл. 227-88-41 у спадарыні Натальлі Сьвятохі.

**Звычайная падпіска па краіне на IV квартал 1999 году. Кошт на 1 месяц – 212 000 рублёў, на 3 месяцы – 636 000 рублёў.**

**НАША НІВА**

**Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:**

1. Кастрычніцкі пункт падпіскі, вул. Жукоўскага, 5, к. 1
2. Партызанскі пункт падпіскі, вул. А.Кашавога, 8
3. Першамайскі пункт падпіскі, пр. Ф.Скарыны, 113
4. Фрунзенскі пункт падпіскі, вул. Рам. Слабада, 9
5. Крама № 1 вул. Жукоўскага, 5
6. Крама № 2 пр. Ф.Скарыны, 44
7. Крама № 3 пр. Ф.Скарыны, 76
8. Крама № 4 вул. Леніна, 15
9. Крама № 6 вул. Філімонава, 1
10. Крама № 7 вул. Якуба Коласа, 69
11. Крама № 8 вул. Сурганава, 40
12. Крама № 9 пр. Ракасоўскага, 140
13. Крама № 10 вул. Асіпенкі, 2
14. Крама № 11 пр. Пушкіна, 77
15. Крама № 12 вул. Кіжаватава, 80
16. Крама № 13 вул. Каліноўскага, 82, к. 2
17. Крама № 14 вул. Валадарскага, 22
18. Крама № 15 вул. Танкавая, 16
19. Крама № 16 вул. В.Харужай, 24
20. Крама № 17 вул. Някрасава, 35
21. Крама № 18 ст. м. «Плошча Перамогі»
22. Крама № 19 пр. Машэрава, 51, к. 1
23. Крама № 20 вул. Ясеніна, 16
24. Крама № 21 станцыя мэтро «Пушкінская»
25. Крама № 23 вул. Славінскага, 39
26. Крама № 24 вул. Жылуновіча, 31
27. Шапік № 34 гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11
28. Шапік № 136 ст. м. «Плошча Якуба Коласа», выхад да Акадэміі Фізкультуры
29. Шапік № 187 гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15
30. Шапік № 262 гатэль «Плянэта», пр. Машэрава, 31
31. Шапік № 78 гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19
32. Крама №25 вул. К.Маркса, 21
33. Шапік №2 Лінгв. унів-т, вул. Захарава, 21
34. Шапік №16 Гатэль «Сьвіслач», вул. Кірава, 13
35. Шапік №18 Тэхн. унів-т, вул, ССвярдлова, 13/4
36. Шапік №37 Дом Ураду, вул. Савецкая, 11
37. Шапік №38 Педаг. унів-т, вул. Савецкая, 18
38. Шапік №40 Мінгарвыканкам, пр. Ф.Скарыны, 8
39. Шапік №88 Мінаблвык-м, вул. Энгельса, 4
40. Шапік №95 вул. Мясьнікова, 39
41. Шапік №198 Эканамічны унів-т
42. Шапік №209 МАЗ, вул. Сацыялістычная, 2
43. Шапік №228 Унів-т культуры, вул. Рабкораўская, 17
44. Шапік №232 МЗХ, пр. Машэрава
45. Шапік №243 Саўмін, вул. Савецкая, 9
46. Шапік №245 Бальніца хут. дапамогі, вул. Кіжэватава, 56
47. Шапік №298 пр. Машэрава, 75/1
48. Шапік №302 9-я бальніца

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125**


Фота ДынамаКіеў

У другім шэрагу зьлева беларусы Хацкевіч і Бялькевіч

# КАНЕЦ ФУТБОЛУ

У суботу завяршыўся нацыянальны чэмпіянат Беларусі па футболе. Інтрыга сэзону сканала яшчэ пасьля 27-га туру: чэмпіёнам датэрмінова стаў барысаўскі БАТЭ. Каманда прайшла за два сэзоны шлях ад дэбютанта вышэйшай лігі да чэмпіёна і паўтарыла посьпех мазырскай «Славіі», якая таксама ў дэбютным сваім сэзоне заваявала срэбныя медалі (1995), а ў наступным — залатыя (1996). Два квіткі на вылет заслужана атрымалі «Маладэчна» і асіповіцкая «Сьвіслач-Страха». Разам з срэбрам «Славія» атрымала і пуцёўку ў Кубак UEFA. Леташні чэмпіён, магілёўскі «Дняпро», заняў 4-е месца.

Асноўнае ўражаньне ад чэмпіянату — клас беларускіх клюбаў і агульны ўзровень нашага футболу няўхільна, год за годам, зьніжаюцца. Яшчэ ніколі прадстаўнікі нашага чэмпіянату ў эўракубках не выступалі так «удала»: усе вылецелі ўжо на старце, прайграўшы свае 6 гульняў з агульным лікам 2:23. Так, прафэсійная «Белшына» прайграла аматарскай «Амоніі» з Кіпру дома 1:5 і ў гасьцёх 0:3.

Такім чынам, у гэтым эўрасэзоне беларускія каманды ўстанавілі антырэкорд, пераўзысьці які ўжо не атрымаецца. Цяпер такое «дасягненьне» можна толькі паўтарыць.

Безумоўна, радыкальна зьмяніць становішча ў нашым чэмпіянаце можа толькі радыкальная зьмена эканамічнага курсу краіны. Ну, ня можа быць у жабрацкай краіне прыстойнага футболу (гандболу, баскетболу). Лепшыя (і ня лепшыя) беларускія футбалісты дзясяткамі зьяжджаюць (найперш у Расею і Ўкраіну). І будуць зьяжджаць: нават у расейскім другім дывізіёне футбалістам плоцяць у пару разоў большыя грошы, чым у Беларусі.

Пра агульны ўзровень нашага чэмпіянату сьведчыць такі факт: адным зь лепшых футбалістаў сэзону зьяўляецца расейскі легіянэр са «Славіі» Дзьмітры Карсакоў, які элемэнтарна не патрэбны ніводнай камандзе расейскай вышэйшай лігі — клас ня той.

Тое, што ўзровень нашага футболу будзе падаць, не выклікае сумневу. Але гэтае падзеньне можна прынамсі замарудзіць, калі правесьці даўно насьпелую рэформу чэмпіянату. На працягу ўсяго чэмпіянату за мэдалі змагаліся толькі пяць камандаў (першая пяцёрка ў табліцы), якія і клясам гульні і набранымі ачкамі далёка адарваліся ад астатніх клюбаў. Да гэтай пяцёркі паводле класу можна далучыць яшчэ менскае «Дынама», якое і заняло 6-е месца, адарваўшыся ад сёмага месца на 8 ачкоў. 5 камандаў проста змагаліся за правы гуляць у вышэйшым дывізіёне на наступны год. Астатнія пяць клюбаў, якія занялі месцы з 7-га да 11-га, маглі не баяцца за сваю прапіску ў вышэйшай лізе і не імкнуліся заняць высокія месцы. Фактычна, гэта сапраўднае балота, у якім футбалісты ня могуць павышаць свайго узроўню. Рэформа (скарачэньне вышэйшай лігі да 12 клюбаў з правядзеньнем чэмпіянату ў два этапы), якая ўжо пару гадоў напрошваецца, дасьць магчымасьць прыпыніць канчатковы развал клюбнага футболу ў краіне. Не бачыць гэтага толькі БФФ.

**Андрэй Андрыеўскі**

*Чэмпіянат Беларусі. 30 тур. Славія (Мазыр) — Тарпеда-МАЗ — 2:0, Ліда — Гомель — 1:4, Шахцёр (Салігорск) — Дняпро-Трансмаш (Магілёў) — 1:0, БАТЭ (Барысаў) — Дынама (Менск) —2:0, Лакаматыў-96 (Віцебск) — Нёман (Горадня) — 1:1, Белшына (Бабруйск) — Маладэчна — 3:0, Дынама (Берасьце) — Нафтан-Дэвон (Навапалацак) — 3:2, Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) — Сьвіслач-Страха (Асіповічы) — 3:0.*

## ВЫНІКОВАЯ ТАБЛІЦА

| | г. | в. | н. | п. | м. | а. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 30 | 24 | 5 | 1 | 80-22 | 77 |
| 2. Славія | 30 | 20 | 5 | 5 | 74-25 | 65 |
| 3. Гомель | 30 | 19 | 6 | 5 | 57-28 | 63 |
| 4. Дняпро-Трансмаш | 30 | 17 | 9 | 4 | 53-27 | 60 |
| 5. Шахцёр | 30 | 18 | 5 | 7 | 58-30 | 59 |
| 6. Дынама М | 30 | 14 | 9 | 7 | 51-30 | 51 |
| 7. Дынама Б | 30 | 14 | 4 | 12 | 59-52 | 46 |
| 8. Белшына | 30 | 13 | 6 | 11 | 52-42 | 45 |
| 9. Нёман-Белкард | 30 | 10 | 7 | 13 | 36-43 | 37 |
| 10.Тарпеда-МАЗ | 30 | 10 | 5 | 15 | 31-47 | 35 |
| 11.Лакаматыў-96 | 30 | 9 | 7 | 14 | 40-45 | 34 |
| 12.Нафтан-Дэвон | 30 | 8 | 4 | 18 | 39-63 | 28 |
| 13.Ліда | 30 | 7 | 4 | 19 | 27-64 | 25 |
| 14.Тарпеда-Кадзіна | 30 | 6 | 5 | 19 | 30-69 | 23 |
| 15.Сьвіслач-Страха | 30 | 4 | 4 | 22 | 24-74 | 16 |
| 16.Маладэчна | 30 | 2 | 5 | 23 | 21-71 | 11 |

лісты ў рэдакцыю

***

*Я, напэўна, адзін зь нямногіх, хто вітае пабудову лядовых палацаў ва ўсіх абласных цэнтрах. Бо, як кажуць, чым бы дзіця ня цешылася... Каб не такія аб'екты, то, можа, тыя самыя грошы пайшлі б на будоўлю АЭС ці на амон. Але ж, на жаль, у хакеі нам мала што сьвеціць. Цяперашні зорны склад пратрымаецца яшчэ 2-3-4 сэзоны, а хто прыйдзе за імі? Калі й зьявяцца новыя хакейныя зоркі, то гадоў праз 10-12...*

*Мы ўсе перажываем за наш футбол. Але ж беларусы — нацыя індывідуалістаў, і таму мы н і к о л і не дасягнем у гульнявых відах спорту такіх вышыняў, як у індывідуальных.*

*Краіны, дзе больш моцныя камандныя, гульнявыя віды спорту — гэта краіны былой Югаславіі, Гішпанія, Італія, Францыя. Ёсьць краіны зь вельмі высокім і гарманічным разьвіцьцём спорту — Чэхія, Нямеччына, Нарвэгія, Данія, цяпер ужо, мабыць, і Ўкраіна. А ёсьць краіны, дзе заўсёды будуць больш моцнымі індывідуальныя віды: Румынія, Куба, Ямайка, Беларусь...*

*Як па-мойму, самы беларускі спорт — лёгкая атлетыка. Таму той спад, які зараз назіраецца ў лёгкай атлетыцы, вельмі крыўдны. Тут, асабліва ў сілавых дысцыплнах, мы як бы саступаем уласную тэрыторыю. Бо не стае ўвагі да гэтага віду спорту. Хаця ў тым жа футболе ў самым лепшым выпадку мы падымемся зь дзевяностых радкоў у сусьветнай клясыфікацыі на пяцідзясятыя-шасьцідзясятыя, а ў лёгкай атлетыцы ў нас ёсьць магчымасьць замахнуцца на алімпійскія мэдалі.*

**Аляксандар Урбановіч, Гомель**

дзе варта быць

## Магілёў

**2 лістапада ў Магілёве ў Палацы піянэраў і школьнікаў (так яго й не перайменавалі) пройдзе канцэрт музыкі Д'юка Элінгтона. Удзельнічаюць Дзяржаўны камэрны аркестар Беларусі, Дзяржаўны камэрны хор Беларусі ды ансамбль традыцыйнага джазу «Рэнэсанс».**

## Радыё

**3 лістапада з Варшавы пачынае вяшчаць на кароткіх хвалях беларускамоўнае радыё «Рацыя». Памагай Божа!**

## Музыка

**У канцэртнае залі Філярмоніі 3 лістапада адбудзецца канцэрт фартэпіяннай музыкі. Творы Шапэна выканае ляўрэат міжнародных конкурсаў Юры Блінаў. 4-га на сцэне Філярмоніі выступіць ляўрэат гран-пры Люксэмбурскага конкурсу 1998 году духавы аркестар Беларускае Акадэміі Музыкі «Фанфары Беларусі». Адбудзецца прэзэнтацыя кампакт-дыску аркестру.**

## Танцы

**Што такое бальныя танцы — мастацтва ці спорт? Завітайце 6 лістапада ў Менскі палац дзяцей ды моладзі, дзе адбудзеца гарадзкі конкурс бальных танцаў «Танцавальны бліц '99».**

## Кіно

**Ёсьць у Менску на вул.Даўгабродзкай кінатэатар «Зьмена». Там штонядзелі і ў другія дні паказваюць беларускамоўныя фільмы. Нават калі Вы нячаста ходзіце ў кіно, раім зазірнуць туды 2 лістапада. На Дзяды ў «Зьмене» а 18-й паказваюць дакумэнтальныя фільмы «Вяртаньне Міхася Забэйды-Суміцкага» ды «Знойдзеш айчыну блізка».**

## Лекцыі

**2 лістапада ў 18.30 у Беларускім Калегіюме (актавая заля бібліятэкі імя Янкі Купалы, вул.Харужай 16) адбудзецца публічная лекцыя праф. Анатоля Грыцкевіча на тэму «Публічныя канцэпцыі і інтэрпрэтацыі беларускай гісторыі».**

## Відэа

**Беларускі відэаклюб прадстаўляе 6 лістапада а 16-й фільм «Страчаны сьвет: Юрскі парк-2» (навуковая фантастыка пра дыназаўраў) рэжысэра Стывэна Спілбэрга і а 18-й «Сьлёзы блуднага сына», гістарычна-публіцыстычны фільм пра лёс беларусаў (Беларусь, у галоўнай ролі — Віктар Шалкевіч). Клюб знаходзіцца на Румянцава 13, на сядзібе ТБМ. Уваход вольны.**

## Спорт

**У аўторак кіеўскае «Дынама» прымае адзін з наймацнейшых клюбаў Эўропы, італьянскі «Лацыё». Кіяўляне атрымалі дзьве перамогі запар. Каб трапіць у фінал Кубку Чэмпіёнаў, ім неадменна трэба змагчы італьянцаў. Падтрымаць Украіну, падтрымаць Раброва можна паехаць цягнікам Менск—Кіеў, які выходзіць зь Менску ў 20.52 і прыходзіць у Кіеў у 10.50. Цягнік назад ідзе а палове на пятую вечара і прыходзіць у Менск рана ўраньні. Ноч у нармальным кіеўскім гатэлі каштуе каля 10—20 даляраў.**

**Алесь Кудрыцкі**

# ТРЭЦІ ГОД ТРАДЫЦЫІ

Сёлета ў Сьвіслачы, ля самай польскай мяжы, зноўку сьпявалі барды. Кася Камоцкая, Віктар Шалкевіч, Зьміцер Сідаровіч, Андрэй Мельнікаў у дуэце зь Лехам Тагуновым. Непадалёк стаялі чатыры "Ікарусы" ды ладны набор драбнейшых аўта. Так выглядала неафіцыйная частка ўшанаваньня ўгодкаў сьмерці Віктара Каліноўскага — тэарэтыка вызвольнага паўстаньня і старэйшага брата паўстанцкага кіраўніка. Трэці год традыцыі...

Заснаваў яе былы марскі афіцэр і нашчадак шляхецкага роду Віктар Трыпчановіч. Прыехаў пасьля адстаўкі на радзіму — у Сьвіслач, стаў наведваць тутэйшыя старыя могілкі і адным разам натыкнуўся на магілу Віктара Каліноўскага...

25 кастрычніка 1997 году над магілай узьнёсься каваны крыж, зроблены гарадзенскім звышкавалём Юрасём Мацко, а ўжо праз год ушанаваць памяць братоў Каліноўскіх сабралася больш за сто адраджэнцаў. Былі і бел-чырвона-белыя сьцягі, і ўскладаньне кветак да магілы Віктара, да помнікаў Кастусю Каліноўскаму (пастаўлены яшчэ пры саветах) і апошняму баявому камандзіру паўстаньня Рамуальду Траўгуту (пастаўлены палякамі ў 28-м, пакалечаны саветамі ў 39-м ды йзноў рэстаўраваны палякамі ў 96-м), і наведаньне рэшткаў былой сядзібы Каліноўскіх ля недалёкай вёскі Якушоўкі, і кілбаскі з вогнішчам ды бардаўскімі сьпевамі.

Сёлета ўшанаваньне памяці Каліноўскіх разгарнулася яшчэ больш. У дадатак да заведзенага рытуалу на месцы былой сядзібы Каліноўскіх паўстаў шасьціметровы (!) драўляны уніяцкі крыж у мэталічнай акоўцы Мацка. Апроч ужо звыклых арганізатараў (Трышчановіча і гарадзенскіх сацыял-дэмакратаў Кісяля, Сазонава, Хільмановіча), ураджэнца Сьвіслачы Валянціна Акудовіча, Дануты Бічэль, бардаў, заходнебеларускай нацтусоўкі і менскай нацмоладзі, гэтым разам тут зьявіліся Ўладзімер Арлоў, Лявон Баршчэўскі, некалькі дзясяткаў франтаўцаў-пазьнякоўцаў з энэргічным народна-патрыятычным хорам, белыя легіянэры і шэф «трэцяга сэктару» Мілінкевіч. Напрыканцы афіцыйнай часткі былі спалены праект дамовы саюзу Беларусі і Расеі.

Тое, што ў Сьвіслачы і навакольлях беларускімі намаганьнямі нарадзіўся сапраўдны гістарычна-нацыянальны комплекс памяці касінераў — факт. У нас ёсьць цяпер яшчэ адна *наша* мясцовасьць як поле Аршанскай бітвы, як нетры нашых лясоў і балот.

**Максім Панк**


Карлас Мэнэм і Фэрнанда дэ ля Руа (справа)

Фота El Espectador

# ПЭРАНІСТЫ СЫХОДЗЯЦЬ — ПРЫХОДЗЯЦЬ БЕЛАРУСЫ

Анатоль ПРАСАЛОВІЧ

У нядзелю 24 кастрычніка ў Аргентыне адбыліся прэзыдэнцкія выбары, у выніку якіх эпохавызначальная партыя пэраністаў у чарговы раз саступіла сваім апанэнтам пасаду кіраўніка другой па велічыні краіны Паўднёвай Амэрыкі.

Варта адзначыць, што Хустысіялісцкая партыя ("Партыя справядлівасьці"), заснаваная Хуанам Дамінга Пэронам, упершыню згубіла ўладу менавіта ў дэмакратычным парадку, а не з прычыны дзяржаўнага перавароту, як гэта адбывалася ў 1955 і 1976 гадах. Карлас Мэнэм, які ўзначальваў краіну ад 1989 году, то бок, на працягу двух тэрмінаў, не пайшоў на парушэньне канстытуцыйных нормаў і ня вылучыў сваёй кандыдатуры, як сьцьвярджаюць, выключна з прагматычных меркаваньняў: каб мець магчымасьць балятавацца на выбарах-2003, што выглядае даволі аптымістычна, калі браць пад увагу амаль сямідзесяцігадовы ўзрост цяперашняга прэзыдэнта.

Дзеля гэтага Мэнэм пазбавіў сваёй фактычнай падтрымкі кандыдата ад пэраністаў Эдуарда Дуальдэ, які ў выбарчай барацьбе ўжо ў першым туры саступіў Фэрнанда дэ ля Руа, лідэру апазыцыі, сфармаванай зь дзьвюх партыяў: найстарэйшай — Грамадзянскага радыкальнага саюзу — і Фронту за салідарнасьць. Перавага невялікая, але вызначальная: 50% супраць 40%.

Асноўная эканамічная прычына паразы — рост беспрацоўя. Затое Аргентына ўтварыла супольны рынак з Бразыліяй, Парагваем і Ўругваем, і ў ёй, у выніку прывязаньня пэса да даляра, зьведзеная да мінімуму інфляцыя. Пэўную нэгатыўную ролю адыграў і замежнапалітычны курс ураду Мэнэма, які зарыентаваў той курс на пазыцыю ЗША, аднавіў дачыненьні зь Вялікабрытаніяй, разарваныя пасьля вайны за Мальвінскія выспы ў 1982 годзе, ды выйшаў з Руху Недалучэньня.

Ня трэба пужацца слова "радыкальны" ў назове былых апазыцыянэраў: такая ўжо посткаляніяльная традыцыя існуе ў Лацінскай Амэрыцы. Прыкладам, адна з "рэвалюцыйных" партыяў Мэксыкі зьяўляецца арганізацыяй чыста алігархічнай. Тое самае можна сказаць і пра аргентынскіх "радыкалаў", чый лідэр — новы прэзыдэнт дэ ля Руа — паабяцаў ня ўносіць аніякіх зьменаў, прынамсі, у эканамічны курс.

Зыход хустысіялістаў змушае прыгадаць гісторыю 50-гадовае даўніны, зьвязаную зь беларускім рухам у Аргентыне. Тады ўся эміграцыя падзялілася на дзьве плыні: тых, хто ганіў Пэрона і перасьледаваўся рэжымам (зобльшага камуністы, сярод якіх было вельмі шмат беларусаў-работнікаў зь міжваеннай хвалі эміграцыі), і тых, хто ўсяляк уладам дагаджаў і актыўна шукаў іхнае падтрымкі (прадстаўнікі паваеннае хвалі эміграцыі на чале з К.Мерлякам). І менавіта цяпер, ва ўнісон зыходу пэраністаў, кіраўніцтва Беларусі прыняло рашэньне аб адкрыцьці ў Аргентыне беларускага пасольства. Са словаў пасла Вадзіма Лазеркі, галоўнай задачай Беларусі ў Срэбнай краіне зьяўляецца як мага шчыльнейшае набліжэньне да групы ейных галоўных гандлёвых партнэраў: ЗША і ЭС. База, нібыта, ёсьць: аргентынцы, як сьцьвярджаецца, добра знаёмыя з нашай прадукцыяй яшчэ з савецкіх часоў.

Адзначаецца таксама, што Беларусь зацікаўленая ў пераняцьці досьведу эканамічных рэформаў, якія, у прынцыпе, мала чым розьняцца ад рэформаў, што праводзяцца сёньня ў дзяржавах Балтыі. Беларускія ўлады, відаць, узялі на ўзбраеньне беларускую прымаўку: "Крывая бярэзіна — ды з-за мора прывезена". ■

## Модная Інфэкцыя

29—30 кастрычніка Віленскі цэнтар сучаснага мастацтва прэзэнтаваў грандыёзнае шоў высокае моды «Mados Infekcija», альбо па-нашаму — «Інфэкцыя моды»... «Інфэкцыя» забірала адразу сваёй раскошаю й найноўшай тэхнічнай абсталяванасьцю. Што праўда, нават шматкроць прадуманае арганізатарамі шоў ня здолела задаволіць усіх ахвотных на ім папрысутнічаць. Даўно фэстывалі моды не зьбіралі гэтулькі публікі й прэсы. І нездарма. Бо літоўскія мадэльеры прадэманстравалі сваю здольнасьць узьбіцца на сусьветны подыюм. Дэманстрацыя (мірная) мадэляў распачалася клясычнымі сьпевамі камэрнага хору, што дадало гэтай падзеі і ўрачыстасьці, і рэспэктабэльнасьці. Гэта пагатоў было неспадзяванкаю, бо тыя майстры, што вывелі гэтым разам свае мадэлі ў сьвет, яшчэ пяць гадоў таму ўважаліся за рэвалюцыянэраў і нігілістаў. І да нядаўняга часу іх мадэлі адносілі часьцей да сфэры альтэрнатыўнае авангарднае культуры, чымся да ўласна адзеньня.

Перад вачыма гледачоў цягам двух доўгіх (вельмі доўгіх) вечароў прайшло 14 калекцыяў, створаных рукамі 18 кутур'е, два зь якіх былі адмыслова запрошаныя з Расеі. Цяпера ў Вільні высокая мода становіцца неад'емнай часткаю культурнага жыцьця й рынку рэклямы. Публіка тут ёю інфікаваная...

Дзяніс Раманюк


Горныя муфлоны — новая краса старых сядзібаў

## Карміць можна, лавіць нельга

У Літве забаранілі прыватным асобам лавіць і ўтрымліваць дзікіх жывёлаў. Для многіх гаспадароў гэта стала вялікай праблемаю. Цяперака ў гэтым краі шмат старых сядзібаў ды гаспадарак, уладальнікі якіх запрашаюць замежных турыстаў, каб тыя маглі пабачыць, пафатаграфаваць ды палашчыць дзікіх зьвяроў, што ў Эўропе блізу зьвяліся. А тут гэтым гаспадарам давядзецца тых зьвяроў купляць. Але ж дзяржаўныя лясьніцтвы ды запаведнікі ня маюць права прадаваць нацыянальны прыродны скарб. Ды й канкурэнцыі ад прыватнікаў ня хочуць, бо й самі могуць ладзіць гэткія атракцыёны. Вось і надумаліся вясковыя гаспадары купляць дзікіх жывёлаў за мяжою. Для гэтага трэба, праўда, таксама атрымаць дазвол ад літоўскага Міністэрства навакольнага асяродзьдзя. І купляюць і вязуць. Напрыклад, дзікіх бараноў-муфлонаў ды сарнаў, што жывуць далёка ў... эўрапейскіх гарах. Разводзяць іх у старых парках і прыбытак ад турыстаў маюць. Выгодная, пэўна, справа. Ну, а сваіх барсукоў, лісіцаў, зуброў ды ласёў можна толькі прыкармліваць... І турысты радыя, і зьвяры сытыя.

Ліцьвін

# Субкамандантэ Маркас: «МЫ КІДАЕМ ВЫКЛІК»

**Хоць лідэр мэксыканскіх рэвалюцыянэраў субкамандантэ Маркас і абкладзены ў Ч'япасе, але ён узьдзейнічае на мэксыканскую палітыку. Ён не прывязаны ні да якой партыі, але сьвята верыць у тое, што грамадзянская супольнасьць і шырокія сацыяльныя рухі могуць і мусяць стаць носьбітамі грамадзкіх зьменаў. Змогуць, калі застануцца вернымі левым каштоўнасьцям і прынцыпам перакананьня і развагі. Пра тое, якою мусіць быць левая рэвалюцыйная ідэя ў сучасным грамадстве, каб не загінуць і каб спрыяць чалавечаму прагрэсу, з Маркасам гутарыць гішпанскі пісьменьнік Мануэль Мантальбан.**

*— Здаецца, як некалі Жан-Жак Русо або анархісты верылі ў «добрага дзікуна», ты верыш у «добрую грамадзянскую супольнасьць», «добры сацыяльны рух». Але грамадзтва складаецца таксама з процьмы рэакцыйных, кансэрватыўных, нецалерантных людзей. Як мабілізаваць добрую і засьцерагчыся ліхое часткі грамадзянскае супольнасьці?*

— Праблема ня ў тым, што ў грамадзтве маюцца фашыстоўскія тэндэнцыі. Мы лічым, што калі ўсе змогуць атрымаць роўны доступ да СМІ і кантактаў са сьветам і іншымі людзьмі, тады самыя чалавечныя, разумныя, справядлівыя, вольныя і дэмакратычныя ўяўленьні пераможуць усе іншыя. Калі ж грашовыя мяхі зацікаўленыя ў тым, каб ідэі фашыстоўскага кшталту, якія ёсьць у кожным грамадзтве, знаходзілі пашырэньне, дык яны прымушаюць працаваць цэлую махіну, каб паспрыяць іхнаму посьпеху. У нас няма страху перад фашыстоўскімі тэндэнцыямі. У вольным грамадзтве яны абавязкова прайграюць.

*— Але ж і нэалібэралізм піша на сваіх сьцягах грамадзянскую супольнасьць...*

— Грамадзянская супольнасьць, у нашым разуменьні, надзеленая крытычнай сьвядомасьцю. Гэтую крытычную сьвядомасьць нэалібэралізм хоча здыскрэдытаваць любой цаной, бо яна стаіць на шляху ягонага некантраляванага наступу.

*— У чым заключаецца гэтая крытычная сьвядомасьць?*

— Мы мяркуем, што погляды і левых, і правых, і палітычных цэнтрыстаў (калі такія ёсьць) перажываюць цяпер глыбокі крызыс. І менавіта таму, што суб'ект, якім яны займаюцца, ужо ня той, што быў раней. Ён зьмяніўся. Тэарэтычныя ўяўленьні традыцыйных левых не дарасьлі да гэтай гістарычнай сытуацыі. Цалкам аднароднае грамадзтва, якога дабіваліся прыхільнікі бясплённага эгалітарызму, нежыцьцяздольнае. Грамадзтва, якое б усё складалася з працоўных, якія ўсе аднолькава апранаюцца і аднолькава паводзяцца, можна ўявіць толькі ў жахлівым сьне пра *american way of life*. Гэта абсурдна, гэта немагчыма; людзі й народы розныя, і мы настойваем на гэтых адрозьненьнях.

*— Можна сабе ўявіць, што ў краінах, дзе сацыяльны разлад такі глыбокі, як, скажам, у Лацінскай Амэрыцы, некалі будзе дасягнутая мяжа, калі цярпеньне людзей вычарпаецца. У іншых краінах наступствы няроўнасьці не такія відавочныя, бо й небагатыры могуць на сэзонным распродажы закупіцца ў Corte Ingles ці Galeries Lafayette і кожны жыве ў ілюзіі, што ён жыве амаль таксама, як ягоны шэф. У багатых краінах мэханізмы ажыцьцяўленьня амэрыканскай ці эўрапейскай мары спраўныя. Затое ў Лацінскай Амэрыцы рэпрэсіўны патэнцыял уладаў больш значны...*

— Гэта відаць. Але таксама бачна, што іхная ўлада слабне. Бедныя і загнаныя — а хто слабейшы за індзейца, які не валодае ні гішпанскай мовай, ні навуковай падрыхтоўкай, ня кажучы ўжо пра матэрыяльныя рэсурсы — знаходзяць мужнасьць кінуць ім выклік. Сілы бясьпекі ўладаў маглі б пэўна разграміць добра ўзброенае войска іншай краіны. Але супраць ледзьве ўзброеных індзейцаў яны аказваюцца бясьсільнымі. Як інакш патлумачыць, што нашы партызаны, слаба ўзброеныя, не навучаныя ваяваць і якія нават маюць мала чаго есьці, дабіваюцца гэткіх посьпехаў.

*— Зьяўленьне вашай партызанкі было для мэксыканскага рэжыму поўнай нечаканасьцю. Адно ваша зьяўленьне ставіць рэжым па-за правам. Бо вы дабіваецеся рэчаў настолькі справядлівых, што ніхто не спрабуе іх аспрэчваць, бо дамагаецеся ня ўлады, а вырашэньня сьвятых для людзей праблемаў. У такім сьвеце, як лацінаамэрыканскі, настаўнік, пісьменьнік, маральны аўтарытэт займае пачэснае месца ў грамадзтве. У Эўропе гэта ўжо ня так. Пасьля сьмерці Жан-Поля Сартра месца найвышэйшага маральнага і інтэлектуальнага аўтарытэта пустуе. Зь перамогаю нэакапіталізму ў Эўропе, мусібыць, ультралібэральным спадчыньнікам Сартра будзе прэзыдэнт Эўрапейскага Цэнтральнага Банку. Роля таго, хто «думае» за цябе, надзвычай важная. Ужо першая ваша дэклярацыя вытрыманая не ў звычайным рэвалюцыйным жаргоне, яна хутчэй падобная да енку пратэсту ў стылі XIX ст. У ёй няма ніякага гістарычнага матэрыялізму і таму падобных рэчаў. Але ў ёй ёсьць тое, што я лічу галоўнай мысьленчай заслугай сапатыстаў: зварот да грамадзянскай супольнасьці як гістарычнага суб'екта, які мусіць запатрабаваць зьменаў палітычных практык і мэтаў. Вы інтэрнацыяналізуеце сваю барацьбу. Вы адмаўляецеся інструмэнталізаваць патрыятычную і сацыяльную тэматыку, як тое рабілі некаторыя сацыялістычныя рэвалюцыі. А калі й выступаеце за нацыю або Бацькаўшчыну, дык ня ў сэнсе мэтафізычных абстракцыяў, але як за тое, што належыць людзям. Вы не містыфікуеце сьмерць, і гэта мне здаецца асабліва важным. У адрозьненьне, напрыклад, ад кубінцаў, вы не крычыце «Радзіма альбо сьмерць», «Сацыялізм альбо сьмерць». Ва ўсім гэтым я бачу падмурак нейкай новай і шчырай стратэгіі.*

— Між сабой мы часта жартуем над гэтай альтэрнатывай — «Радзіма альбо сьмерць». Мы хацелі б лепей жыць для Бацькаўшчыны. Мы цалкам разумеем, што наш палітычны аналіз і тактыку сапатысцкага руху нельга так проста пераносіць на іншыя краіны і сытуацыі. Але галоўнае тое, што мы кідаем выклік. І ў гэтым сэнсе сапатызм цалкам можна пераносіць у іншых формах на іншыя абшары і ў іншыя рэгіёны сьвету. Мы адмовіліся ствараць сапатысцкі Інтэрнацыянал — гэта быў бы ўжо сёмы ці дзясяты інтэрнацыянал у гісторыі. Не, мы ня хочам быць ніякім авангардам. Лепш давайце ўтворым інфармацыйную сетку і злучымся, і ўсё.


Фота Лючыі Рыяс

Паводле *Le Monde diplomatique*
падрыхтаваў Сяргей Богдан

# ПЯРЭДНІ КРАЙ

*Мы зьбіраліся весьці сёньня гутарку пра тых, хто ішоў на пярэднім краі 17 кастрычніка. Дзеяньні авангарду дэманстрантаў уражвалі прадуманасьцю і гатовасьцю да самых адказных рашэньняў. Вынік лістапада, які пачынаецца, залежыць ад таго, ці стануць людзі поплеч з тымі, хто ідзе наперадзе. Тады лістапад 99-га можа стаць гістарычным лістападам.*

*Аднак, рыхтуючы нумар, «НН» так і не ўдалося сустрэцца з прадстаўнікамі падпольнай вайскова-патрыятычнай арганізацыі «Край» — яна пакуль ня мае ні легальнай філіі, ні прадстаўніка для прэсы. Адмовіліся ад інтэрвію і ў «Белым Легіёне»: «На пярэднім краі ідуць адны, а гутараць хай другія». Гэта паважнае майчаньне: структуры дзьвюх гэтых арганізацыяў на сёньняшні момант маюцца ў больш чым 50 гарадах і мястэчках Беларусі. Наш карэспандэнт гутарыў з прадстаўнікамі іншых суполак. Хоць і менш значныя, яны маюць сходныя мэты.*

Не сакрэт, што 17 кастрычніка ў дзёрзкіх атаках на кардоны сталічнай міліцыі ды амону моладзь з «Партыі Свабоды», Маладога Фронту і вайскова-патрыятычнай арганізацыі «Край» праявіла сябе як дастаткова арганізаваная беларуская сіла. На жаль, пасьля акцыі супрацiву яе актыўныя ўдзельнікі вымушаныя захоўваць меры перасьцярогі нават у дачыненьнях з нацыянальнай прэсай. На фоне гэтага канспіратыўнага зацішша мне падалося цікавым сустрэцца зь людзьмі, якім ёсьць што сказаць пра вынікі Маршу Свабоды і пэрспэктывы беларускага нацыянальнага супраціву.

На пытаньні «Як Вы ацэньваеце падзеі 17 кастрычніка?» і «Што будзе далей?» адказваюць кіраўнік незарэгістраванай «Беларускай Партыі Свабоды» Сяргей Высоцкі і сябра фактычна падпольнай арганізацыі «Беларускі Нацыянальны Кангрэс» Андрэй «Рутовіч».

## Радзіма або сьмерць

**«НН»: Андрэй, раскажыце ў межах магчымага, што гэта за арганізацыя альбо партыя, ад імя якой Вы выступаеце, якія мэты ставіць перад сабой БНК?**

**Андрэй «Рутовіч»:** Наша арганізацыя знаходзіцца ў стадыі структурнага станаўленьня. Умовы падполля і дастаткова строгая канспірацыя істотна ўскладняюць працу, але пакуль што інакш нельга. Нашы людзі ўздымаюць ідэю «Беларускага Нацыянальнага Кангрэсу» на парэштках Нацыянальна-дэмакратычнай партыі, пазьнякоўскага БНФ і радыкальных маладзёвых суполак, абвяшчаюць сябе канструктывістамі беларускай нацыянальнай рэвалюцыі. Разам з блізкімі нам радыкальнымі партыямі і групамі мы кажам: Радзіма альбо сьмерць!

**«НН»: Як Вам Марш Свабоды і — што далей?**

**А.«Р.»:** З аднаго боку, я задаволены сьмеласьцю й напорам, зь якімі беларуская моладзь заатакавала ахоўнікаў рэжыму. З другога боку, мне зразумела, што бальшыня беларускай міліцыі — нашыя людзі, якія таксама ненавідзяць існуючы рэжым.

Цяпер пра «што далей?». Як сябра БНК, я думаю, што далей будзе горш, ворагі нацыі пойдуць ва-банк. Для адпору ім трэба стварыць блёк праварадыкальных партыяў і арганізацыяў. Да стварэньня такога блёку і заклікае БНК.

## Акцыя вярнула веру

**Сяргей Высоцкі, старшыня «Партыі Свабоды»:**

— Беларуская моладзь узяла лёс апошняга этапу Маршу ў свае рукі. Сёньня, дзякуючы геraічнаму чыну маладых 17-20-гадовых, кожны беларус мае права сказаць: «Мы — вялікі беларускі народ». І перамога, а гэта менавіта перамога, належыць у першую чаргу не Івашкевічу, не Грązновай, ня Хартыі-97, а нашай змагарнай і сьвятой беларускай моладзі.

Акцыя 17-га атрымала вялікі розгалас, вярнула веру ў будучыню беларускай дзяржавы і ў беларускі народ сотням тысячаў людзей. Аднак чаму атрымаўся гэткі эфэкт?! Бо ўпершыню былі ўзятыя на ўзбраеньне рэвалюцыйныя і нацыянальна-вызвольныя сродкі барацьбы. Толькі сілай можна супрацьстаяць янычарам і акупантам. Акцыя 17-га гэта пацьвердзіла.

Аднак сёй-той з памяркоўных ужо сьпяшаецца адмежавацца ад «правакатараў». Нехта ўжо ледзь не апраўдваецца перад кáтамі. Сябры, вам няма за што апраўдвацца. І нічога, што нехта набраў палітычныя балы, скарыстаўшы мужны парыў беларускай нацыі да жыцьця і ўласнай волі. Хіба гэта галоўнае? У справе нацыянальна-вызвольнага супраціву альбо ўсе перамогуць, альбо ўсе ж і прайграюць. Спадарам памяркоўнікам варта адказаць сабе, ці гатовыя яны ісьці далей, у вайсковыя часткі, да рэвалюцыйных рабочых? Ці гатовыя яны ісьці да Нацыянальнай Рэвалюцыі?! Бо той, хто марыць толькі пра аксамітную — не атрымае ніякай. Такі закон палітычнага жыцьця. Ні акупант, ні ягоныя адвакаты ня маюць права вызначаць дапушчальныя народам межы самаабароны.

Падрыхтаваў Міраслаў Чантарыцкі


Фота IREX-ProMedia

Сутыкненьне на вуліцы Першамайскай

# КРАІНА ДЫХАЕ...

Нядаўна я ўпершыню пачуў расейскае слова «стрёмопаты». У беларускай мове ёсьць дзеяслоў «стрымацца», вельмі падобны да расейскага «стрематься» (які значыць «шугацца, панічна баяцца чагосьці»). То бок, стрымапаты — людзі, што паталягічна ўстрымліваюцца. Ад чаго?

Неасэнсаванасьць дзеяньняў вынікае зь іхнага неасэнсаваньня, як і сэнс барацьбы — зь яе бессэнсоўнасьці. Прыйдзе час, і моладзь пачне клікаць шаноўнае спадарства «жапазыцыяй», з-за яе аморфнасьці. Вы намагаецеся сабраць 100, 200, 300 тысячаў на вуліцах шэрага Менску, але не разумееце, што, каб нешта сабраць, трэба нешта кінуць. Прыкладам, камень.

Шэрыя службы цынічна судзяць удзельнікаў Маршу, а шэрыя сьведкі падзеяў — з баршчом на пузе — ня зьдзіваюцца, калі ўсім героям-міліцыянтам заўтрага дадуць маршалаў. На мурох — мура. А менавіта яны, муры, — гэта нашыя сродкі масавае інфармацыі. Мураванкамі супроць мураўёваў-вешальнікаў ды мураўёўвісельнікаў. Бо той, хто здолее напісаць «ЖБ!» на шыбе, напіша і з-пад шыбеніцы.

Кансэрватыўна-хрысьціянскі хронт ня любіць камуністаў і іншых чырвоных, але ж знайсьці замену пуліхаўскім «enfants de la Patrie» так і ня здолелі. На Ўправе КХП БНФ дзядзька за стойкай сустракае цябе фразай «Што Вы хаціце?», а таварыш з харугвай БСДП на маё пытаньне, дзе знайсьці Статкевіча, кажа, што, маўляў, «не тваё дзела, шчэнок» і прапаноўвае мне засунуць нашаніўскае пасьведчаньне ў адно месца.

«Шчанюкі» грызуцца «за жывот» з шакаламі, а сабакі-аксакалы адно ўмеюць, што лаяцца між сабой ды падбрэхваць нават не з падпольля, а з падпечча, бо там цяплей. Мястэчковая апатыя

# ЗЬ «ЛЮБОЎЮ» ДА РАСЕІ

***Пасьля сканчэньня Маршу Свабоды былі затрыманыя ня толькі беларускія грамадзяне, але й грамадзяне Расеі. Журналістка Наста Неказакава вярнулася з Маршу толькі а 5-й раніцы 18 кастрычніка. Наста вучылася ў Маскве ва Ўнівэрсытэце геадэзіі і картаграфіі, працавала настаўніцай, займалася экалягічнай дзейнасьцю. Цяпер жыве ў Менску, працуе ў газэце «Навінкі». Вось што яна распавяла ў Праваабарончым Цэнтры «Вясна»:***

«Тое, што я пабачыла 17 кастрычніка, кардынальна адрозьніваецца ад таго, што бывае ў Расеі. Там, калі нас забіралі на экалягічных акцыях, дык вельмі баяліся шуміхі. Тут жа законаў няма...

Я трапіла на мітынг, калі ён ужо скончаўся. Вельмі шмат было моладзі. У Расеі самая актыўная частка насельніцтва — старыя. Моладзь у Расеі зусім апалітычная. А тут я пабачыла маладых, якім ня ўсё адно, што робіцца...

Мы дайшлі да плошчы Перамогі. Паглядзелі, што ўсе пайшлі бокам... Мы зь сябрам вырашылі не ісьці разам з усімі па вул. Казлова, а пайсьці па Захарава, каб сустрэць пачатак калёны. Як мне сказалі пасьля ў міліцыі, нас «засеклі» якраз на плошчы Перамогі, калі мы стаялі і глядзелі — былі нават ня ў першых шэрагах, а перад імі. Мы мірна ішлі па Захарава, калі на нас накінуліся людзі ў цывільным і сталі запіхваць у «Жыгулі». Я яшчэ падумала: «Можа, нас выкрадаюць!»

Гадзіны праз паўтары ў Савецкі пастарунак, куды нас прывезьлі, пачалі прывозіць людзей з моста церазь Сьвіслач. Мы падумалі: «Крыўдна, што так рана нас забралі, і мы гэтага не пабачылі». Пратаколы на нас пачалі складаць толькі каля 23-й гадзіны. Усе стомленыя. Нехта перажываў, што выганяць з інстытуту. Апошніх людзей прывезьлі а 22-й — хлопец зь дзяўчынай удзельнічалі ў дэманстрацыі, пасьля паехалі ў госьці да сяброўкі, пілі гарбату, сяброўка пайшла праводзіць іх да станцыі мэтро «Ўсход», і там іх усіх трох забралі. Праз паўгадзіны прыехала маці гэтай няпоўнагадовай дзяўчыны, да якой яны хадзілі ў госьці. Маці да другой ночы там даказвала, што яе дачка цэлы дзень была ў хаце: «Выйшаў дзіцёнак на пяць хвілінаў праводзіць сяброў і зьнік. Тэлефануюць з РАУСу і кажуць, што затрымалі за ўдзел у дэманстрацыі! Як такое магло быць!»

Пасьля таго як склалі пратаколы, мяне прывялі да намесьніка начальніка РАУСу. Прозьвішча яго, здаецца, Гусінскі. Ён сядзеў паўп'яны ў сваім кабінэце, разваліўшыся ў крэсьле. Ён быў у цывільным. Гэты чалавек пакінуў у мяне жахлівае ўражаньне. Выказваўся ён выключна нецэнзурна. Я зайшла да яго і адразу села. Тут жа мне сказалі, што я павінна стаяць перад начальнікам. Прэскарту маю спачатку спрабавалі парваць на дзьве часткі, пасьля падпаліць. Начальнік казаў сваёму памочніку: «Разарві, я кепска бачу!» Пасьля памочнік проста парэзаў прэс-карту ўпоперак.

Дыялёг з начальнікам быў бессэнсоўным. Ён мне расказваў, як ён любіць Расею і паважае ўсіх расейскіх людзей, пасьля пачаў крычаць, што ты «прыяжджаеш сюды, каб нам жыць перашкаджаць». Пасьля крыкнуў: «Ці ведаеш ты, чым у нас мужыкоў гвалцяць у турмах?» — і вельмі падрабязна пачаў тлумачыць. Але на мой адразу ўзгадаць і казаў: «Ведаеш, такімі сіненькімі, я ня памятаю, як яны называюцца, ну, садавіна такая». Пасьля яму нехта падказаў: «Баклажаны!» Я не магла зразумець, што я павінна рабіць: радавацца, што я не мужчына, ці здагадвацца, што з жанчынамі абыходзяцца яшчэ горш. Для яго гэта, відаць, тэма нейкая слабая, бо ён мне доўга гаварыў: «Паглядзі на сябе, як ты стаіш — так толькі ананісты стаяць». Пасьля пачаў расказваць, хто такія ананісты. Нейкія хворыя ў яго былі фантазіі... Затым падышоў і з размаху ўдарыў мяне па галаве са словамі: «Прабач, але ты сама ведаеш, за што! Гэта для твайго выхаваньня!» Мне зрабілася крыўдна. А побач стаяў малады мент, ён сьмяяўся. Я стала кідацца да дзьвярэй, ён пачаў мяне адцягваць і прыдушваць, а свайму памочніку загадаў замкнуць дзьверы.

Пасьля мне зноў расказвалі пра жахі турэмнага жыцьця: «Там прастытуткі, у іх хваробы. Уяві: кароста. Пасядзіш, і ў цябе такое будзе». А пасьля гэты намесьнік начальніка Савецкага РАУСу паказаў мне на вялікі партрэт Лукашэнкі, які вісеў у яго ў кабінэце, і сказаў: «Ты ведаеш, хто гэта? Гэта наш бацька-прэзыдэнт! А ты ведаеш, у якую дзяржаву ты тра-



Фота (REX-ProMedia)

Пад час Маршу Свабоды

— хвароба нацыі, і дапамагчы можа толькі пераліваньне крыві. Дзякаваць Богу, піявак хапае. Каб сьвядома ісьці на крыві праліваньне, трэ запасьціся новай, здаровай.

Шмат дохтараў, але нямашака донараў. Можна бу́хаць буржуйскія грошы на розную лухту, можна на іх буха́ць, але хто з вас, дзядзечкі-апазыцыянты, падумае пра моладзь, перад якою зараз стаіць дылема: «Застацца, каб узрываць брук, ці зрываць, каб не застацца ў брудзе?»

Ёсьць яшчэ трэцяе выйсьце: стаць шэрым «стрёмопатом», атрымаць чарговы інвэнтарны нумар рэквізыту вялізнага Тэатру Лялек пад назовам Беларусь, дзе рэжысэрам — чарговы Карабас-Барабас, а трупа складаецца з жывых трупаў. Утрапёных трупаў.

Што такое «Б...ь»? У свой час ніхто з маіх інтэрнацкіх сяброў і не падумаў, што гэта можа быць Беларусь.

Краіна падыхае Рэвалюцыяй.

**Анатоль Прасаловіч**

піла? Ты трапіла ў паліцэйскую дзяржаву. У нас ёсьць прэзыдэнт, якога ніхто ня любіць, і мы павінны бараніць яго ад народу. Мы мусім выконваць сваю місію!»

Урэшце мяне накіравалі ў прыёмнік-разьмеркавальнік на Акрэсьціна. Доўга вазілі на аманаўскім аўтобусе разам з усімі, але а пятай раніцы пачалі казаць: «Давай усё замнём. Ніякіх крыўдаў». Гэта казаў іншы чалавек, ён таксама быў у цывільным. Я сказала, што нічога не абяцаю. Але варта адзначыць, што там ніхто не прадстаўляўся, а твары ў іх вельмі падобныя. Ніводзін супрацоўнік міліцыі ні разу не прадставіўся, ні тады, калі затрымлівалі, ні тады, калі пісалі пратаколы. Адзінае, што каля кабінэту начальніка вісіць Дошка гонару, і там ёсьць твары з прозьвішчамі.

А пятай мяне адпусьцілі».

*22 кастрычніка над Зьмітром Юркевічам, затрыманым разам з Анастасіяй Неказакавай, адбыўся суд. Яго апраўдалі, бо нават з дапамогай апэратыўных відэакадраў ня здолелі даказаць актыўны ўдзел у Маршы Свабоды.*

**Запісала Паліна Сьцепаненка**

## Яны церпяць за Беларусь

**Сьпіс грамадзян, супраць якіх узбуджаныя крымінальныя справы па палітычных матывах або засуджаных па палітычных матывах:**
*(стан на 31.10.99)*

Алесь Астроўскі
Яўген Асінскі
Андрэй Валабуеў
Алег Воўчак
Глеб Догіль
Зьміцер Задараў
Павал Знавец
Андрэй Клімаў
Уладзімер Кудзінаў
Сяргей Калінін
Антон Лазараў
Павал Ляшчынскі
Яўген Мурашка
Уладзімер Плешчанка
Галіна Рабянкова
Аляксей Сіманенка
Ігар Сімчанка
Яўген Скочка
Мікола Статкевіч
Герман Сушкевіч
Барыс Хамайда
Сяргей Шмялёў
Валеры Шчукін
Міхаіл Чыгір

**Перасьледаваныя па палітычных матывах за прафэсійную дзейнасьць:**

Юры Бандажэўскі
Васіль Лявонаў
Гары Паганяйла
Васіль Старавойтаў
Вера Страмкоўская

**Тыя, што зьніклі:**

Тамара Віньнікава
Віктар Ганчар
Юры Захаранка
Анатоль Красоўскі

**Падрыхтаваў А.Ш.**

# НЕЛЕГАЛЬНА — НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

## *Маладыя беларусы ў Нямеччыне ўтварылі Дэмакратычны Саюз Беларусі, каб змагацца за свабоду радзімы*

*На пачатку году наша газэта ўжо пісала пра ўцёкі на Захад маладога судзьдзі з Бабруйску Юр'я Сушкова. Пазьней многія чытачы цікавіліся далейшым лёсам гэтага чалавека. Але зьвестак пра яго не было, акрамя надрукаванага ў прэсе ўказу Лукашэнкі. Ён вызваляў Сушкова ад абавязкаў судзьдзі.*

*Днямі Юры пакінуў Беларусь другі раз — пасьля таемнага прыезду на радзіму. Перад ад'ездам ён сустрэўся з карэспандэнтам «НН».*

*...Першым чалавекам, зь якім Юры размаўляў пасьля прыезду ў Нямеччыну, быў звычайны таксіст. Слова за слова, і раптам высьветлілася, што кіроўца й пасажыр маюць падобныя лёсы. Таксіст аказаўся палякам, юрыстам па адукацыі, які зьбег у Нямеччыну ад Ярузэльскага пад час ваеннага становішча ў Польшчы. Паляк усьпрыняў знаёмства зь беларусам з пэўным сантымэнтам. Ён узяў за таксі ўдвая менш, чым было на лічыльніку, а пасьля палез у багажнік і ўручыў Юр'ю цэлы пакет прысмакаў. «Вып'еце гарбаты зь іншымі ўцекачамі. Я сам калісь быў такі!» Так нашага земляка сустрэла Эўропа...*

**— Юры, як Вы жывы-здаровы на новым месцы?**

— Я цяпер жыву ў Нямеччыне. Ужо даволі працяглы час у горадзе Дуйсбургу. Працаваць там пакуль магчымасьці няма, бо ўцекачам ня надта даюць працаваць. Немцы ўвогуле вельмі добразычліва ставяцца да нашых людзей. Вельмі вялікую дапамогу дае ўцекачам дзяржава. Ня толькі грашыма: можна хадзіць вучыцца, мову вывучаць, што важна. А магчыма, нават найважней на першым этапе. Людзі ў Нямеччыне вельмі добрыя, вельмі спагадлівыя. Натуральна, нашы суайчыньнікі, якія вымушаны там знаходзіцца, імкнуцца адптацца тым жа. Хоць, вядома, там шмат выхадцаў з усходу Эўропы, якія займаюцца крымінальнай дзейнасьцю. Гэта падрывае наш аўтарытэт.

Як юрыст, я зьвярнуў увагу, што пакараньні ў Нямеччыне вельмі мяккія, не такія, як у нас. Тут усіх разьмяркоўваюць у папраўча-працоўныя калёніі, як правіла. Там людзі атрымліваюць збольшага штрафы. Пры гэтым нашы штрафы ў параўнаньні з нашымі заробкамі нават большыя, чым іхныя штрафы — зь іхнімі.

Мы ў горадзе Дусэльдорфе — гэта ў Рэйнаніі-Вэстфаліі — стварылі Дэмакратычны Саюз Беларусі. Сабралася група маладых людзей зь Беларусі, гатовых змагацца за вольную Бацькаўшчыну.

**— Гэта нашы эмігранты? Ці дзеці эмігрантаў?**

— Не, гэта ўсё эмігранты ў першым пакаленьні, беларуская моладзь, што цяпер жыве ў Нямеччыне. Арганізацыя пацігу пашыраецца. Зьяўляюцца новыя людзі, якія жадаюць аказваць дапамогу — як інтэлектуальную, так і матэрыяльную. Гэта пераважна прадстаўнікі інтэлігенцыі. Кантынгент шырокі. Людзі розныя.

Адна з прычынаў майго прыезду ў Беларусь — наладжваньне сувязяў зь беларускай апазыцыяй. Трэба наладзіць кантакты, каб аказваць адзін аднаму дапамогу, найперш інфармацыйную. Ёсьць пэрспэктывы стварэньня на Захадзе — відаць, у Галяндыі й Нямеччыне — беларускіх інфармацыйных цэнтраў. Можна будзе выпускаць нават свой бюлетэнь ці газэту. У нас будзе магчымасьць паказаць сапраўднае аблічча нашай дзяржавы.

**— Перад ад'ездам Вы выказвалі намер напісаць кнігу пра Беларусь. Ці йдзе праца?**

— Пра кнігу ведаюць у Дэмакратычным Саюзе Беларусі. І мне цяпер ужо дапамагаюць у зборы матэрыялаў.

**— Як Вас сустрэлі ў Бабруйску, ці была нейкая асаблівая рэакцыя з боку знаёмых?**

— Я ў сваім родным горадзе амаль ня быў. Бо ж я прыехаў нелегальна. Жыву тут так, што пра мяне амаль ніхто не ведае, акрамя вузкага кола асобаў, якім я давяраю. Бо ўлады абвесьцілі мой вышук. Маю ў руках дакументы, якія гэта даказваюць. Калі шмат хто даведаецца пра маё перабываньне ў Беларусі да таго, як я зноў выеду за мяжу, могуць быць праблемы. Магу трапіць ім у рукі. Страшна нешта прагназаваць у сытуацыі, калі ў краіне зьнікаюць людзі. Папросту кажучы, могуць даць дзесь за кутом па галаве, і разьвітвайся з усімі планамі. У Менску людзі, якія асабіста ведаюць старшыню Вярхоўнага суду Сукалу, сказалі, што ён мне не даруе майго ўчынку... Выступаючы на магілёўскім тэлебачаньні («Магілёў-1», па-мойму, канал завецца) недзе ў мінулым месяцы сп.Сукала сказаў, што кропка ў маёй справе яшчэ не пастаўлена і будуць яшчэ з маім выпадкам разьбірацца. Ім яшчэ нешта хочацца высьвятляць і зь нечым разьбірацца...

**— Што значыць «у Вашай справе»? Супраць Вас што — крымінальную справу завялі?**

— Справу, канечне, наўрад ці заводзілі, бо гэта пэўная працэсуальная працэдура. Павінны ж быць абгрунтаваньні, а ў маіх дзеяньнях ніякага складу злачынства не было.

**— Калі ласка, пракамэнтуйце артыкулы ў бабруйскай і магілёўскай прэсе, якія былі напісаныя як рэакцыя на Вашае ўцякацтва.**

— З задавальненьнем пракамэнтую, бо гэта больш гумар, чым нешта сур'ёзнае. У «Бабруйскім кур'еры» (здаецца, гэтак ён называецца) Галіна Процкая напісала пра мяне артыкул. Ну, яна, відаць, не ад сябе выказваецца... У матэрыяле прысутнічае невялікі аналіз, інтэрвію Ўладзімера Галавачэнкі (гэта цяперашні в.а. старшыні Ленінскага суду Бабруйску), старшыні Першамайскага суду Аляксандра Казусёнка, работніка УУС Бяляцкага і начальніка Ленінскага РАУС Касьцяневіча. Галавачэнка казаў, што я адпрацаваў у судзе ўсяго нічога — год (я адпрацаваў фактычна паўтары гады), а за гэты час рана меркаваць пра судзьдзю як пра спэцыяліста. Што я «абыяк» працаваў, і ўсё такое... Падругое, Галавачэнка сказаў, што ў мяне ў Беларусі засталася дачка, якую дрэнны бацька, выходзіць, кінуў, пакінуў без алімэнтаў. Але я як плаціў аліменты на дачку, так і плачу. Стабільна, праз пошту. Паколькі сам я зараз гэтым займацца не магу, я даручыў сваім бацькам выплочваць алімэнты з маіх грошай. Наш закон дазваляе мне гэта рабіць. Мае бацькі ўвесь час знаходзяцца ў Беларусі. Ленінскі райсуд Бабруйску абвесьціў мяне ў вышук. Наколькі мне вядома, гэта было ўказаньне зьверху...

**— І Вашыя былыя калегі з гатоўнасьцю на такое пайшлі!**

— Так. Мая аднакурсьніца, аднагрупніца, якая разам са мной у Харкаве вучылася, Караленка Тацяна, вынесла азначэньне аб маім вышуку. Гэты дакумэнт накіраваны ў Першамайскі РАУС для прыняцьця яго ў вытворчасьць. Я ўвогуле не разумею сэнсу гэтага вышуку: калі справа ў алімэнтах, дык бацькі маюць права плаціць за мяне алімэнты. Пісьмовы дазвол Магілёўскага ўпраўленьня юстыцыі маецца як у судзе, так і ў маіх бацькоў. Галавачэнка сказаў яшчэ, што я зьехаў у Нямеччыну таму, што маю там вельмі шмат сяброў, бо я там нарадзіўся, у Нямеччыне. Гэта проста глупства: нарадзіўшыся, я пражыў там крыху больш за год і з бацькамі зьехаў. Якія маглі быць у гадавалага дзіцяці сябры?!

Хачу паўтарыць: я зьехаў, зыходзячы толькі са сваіх поглядаў на жыцьцё. Я быў абавязаны так зрабіць.

Ведаеце, у мяне шмат сяброў у міліцыі, судзе, пракуратуры, КГБ. Гэтыя людзі мяне падтрымалі. Усе сказалі мне, што я меў рацыю, што я сказаў праўду, што ўсім вядома, якое у нас робіцца «невядома што». Усе пра гэта ведаюць, але ня ўсе гатовыя на падобны да майго крок.

**— Вы забярэце сваю сям'ю ў Нямеччыну?**

— Пакуль што я ня стаўлю пытаньня так. Але мая жонка — мой паплечнік, яна мяне ва ўсіх справах падтрымлівала, дапамагала.

**— Усё ж, Юры, дзе Вам хочацца жыць: на Радзіме ці за мяжою?**

— Вы ведаеце, гэта залежыць толькі ад палітычнай сытуацыі. Вядома, пры зьмене рэжыму жыць на Захадзе я не зьбіраюся. Чаму я й вярнуўся, хоць часова й нелегальна — бо палітычны прытулак для мяне — не самамэта. У любым выпадку я гатовы працягваць змагацца за вольную Беларусь. Але цяпер я не магу тут знайсьці сабе легальны ўжытак.

**— А калі дыктатура зацягнецца на пару дзясяткаў гадоў? Мне ў гэта мала верыцца, але раптам?..**

— Будзем змагацца зь ёй! Нават пару дзясяткаў гадоў. І абавязкова пераможам!

**Гутарыла Тацяна Сьнітко**



Фота IREX/ProMedia

# ДЗЯДЫ — НЯ «ДЕДЫ»

Напярэдадні сёлетніх Дзядоў некаторыя менскія рускамоўныя газэты і старонкі ў інтэрнэце неабачліва пераклалі слова «Дзяды» на расейскую мову. Не ўлічылі, што гэтае слова ў такім кантэксьце па-расейску гучыць з націскам на першым складзе — «дéды», як у словазлучэньні «отцы и деды». Калі ж гэтае слова напісаць зь вялікай літары, забраць у двукосьсі і прыставіць год, атрымаецца поўная недарэчнасьць — «Деды'99» — тое, што ніяк не асацыюецца з традыцыйным беларускім днём памінаньня продкаў.

Калі глыбей учытвацца ў артыкулы пра «Деды'99», абавязкова натрапляеш на развагі пра духоўнасьць, якая абавязкова зьвязваецца з праваслаўнай царквою і г.д. Вось тут і пралягае мяжа, якая выразна аддзяляе расейскую культуру ня толькі ад беларускай, але й ад іншых эўрапейскіх культураў. Проста кажучы, так і столькі пра духоўнасьць у нас ня кажуць і да духоўнасьці не заклікаюць, што можа сьведчыць пра недахоп гэтай самай духоўнасьці ў Расеі. У беларускай традыцыі нічога падобнага ніколі не было. Прынамсі, ані ў фальклёры, ані ў клясычнай літаратуры такіх сьведчаньняў мы ня знойдзем. Казалі: «старыны ня рушыць, навіны ня ўводзіць». А гэта, у сваю чаргу, ужо ніяк не стасуецца з расейскай культурнай традыцыяй.

Пры ўсім напоры прапаганды духоўнасьці Расея ведала і здраду духавенства, і масавы атэізм, заўзятае і радаснае разбурэньне сьвятыняў. А ў выніку — паказальны прыклад — разьвітаньне з камунізмам, якое ў Расеі на ўзроўні народнай сьвядомасьці адбылося надзвычай лёгка. Менавіта з гэтых прыкладаў складаецца высноўа пра брак духоўнасьці, якім абумоўленае бясконцае гаварэньне пра гэтую самую духоўнасьць.

Ні ў якое параўнаньне ня йдзе сытуацыя беларускай народнай сьвядомасьці, якая яшчэ доўга будзе разьвівацца са сваім сацыялізмам. Як на маю думку, гэта сьведчыць пра прыродны кансэрватызм і, у выніку, жыцьцяздольнасьць нашае нацыі, якая спрадвеку імкнецца «старыны ня рухаць, а навіны ня ўводзіць», нават калі старыною для яе стаў аблудны шлях, у гэтым выпадку — савецкі сацыялізм. Зьмена арыенціраў даецца пакутна і адбываецца доўга. Яна ў нас праходзіць толькі са зьменаю пакаленьняў. Менавіта на гэтым гуляе цяперашняя ўлада, якая заклікае хутчэй аднавіць Савецкі Саюз, пакуль не адышло старэйшае пакаленьне, якому савецкія ідэалы блізкія і дарагія (а «прагматычная моладзь» ужо ніколі не прагаласуе за СССР). Можна сабе ўявіць, што пры ўмацаваньні ў душах людзей станоўчых арыенціраў мы можам стаць аднымі з найбольшых прыхільнікаў дэмакратыі і рынкавай эканомікі сярод суседзяў. Тое самае тычыцца і мовы, і нацыянальнай культуры, якія калі ўжо прыйдуць у сьведамасьць людзей, дык замацуюцца там назаўсёды.

Беларусы — не рэвалюцыянэры. Пагаварыце пра гэта з вашымі продкамі, калі прыйдзеце на Дзяды на іхныя магілы, і вы адчуеце, што гэта так.

Сяргей Паўлоўскі

# Пахаваньне дзеда Аркадзя

Севярын КВЯТКОЎСКІ

Два тыдні таму мы хавалі дзеда Аркадзя — апошняга з старэйшых нашага роду. Дзед Аркадзь быў прадметам майго дзіцячага захапленьня і гонару. Бо ён першым у вёсцы сабраў уласны трактар. Увогуле, майстраваў рэчы, недасяжныя для ўменьня іншых, праз што нешматлікія «варагі» ў вёсцы называлі яго таямнічым словам, якое выклікала павагу — «аднаасобнік». А яшчэ, у доме бабы Ані і дзеда Аркадзя я прамовіў першыя беларускія словы.

Рытуал пахаваньня адрозьніваецца ня тое што ў розных рэгіёнах, але і ў суседніх вёсках. У адной нябожчыка абавязкова вязуць (прычым на аўтамабілі, нават, калі могілкі ў сотні мэтраў ад хаты), у нашай — трэба толькі несьці, хай сабе й колькі кілямэтраў. А яшчэ паводле непісаных правілаў урачыстыя словы перад першым памінальным кілішкам прамаўляюць менавіта «па-руску». «Гаварыць па-руску» — гэта сапраўдная праца, ня менш цяжкая, чым любая справа ў беларускай вясковай гаспадарцы. Зрэшты, як для каго. Кіраваў хаўтурамі мой стрыечны дзядзька. У адрозьненьне ад большасьці аднавяскоўцаў, ён ня толькі пераехаў у горад, але й скончыў філфак БДУ і выкладае цяпер там беларускую мову. Зразумела, дзядзька — чалавек паважаны ў вёсцы. Што да мяне, дык менавіта дзядзька чытаў мне малому «Новую зямлю» й вучыў шмат чаму добраму — беларускаму...

Жывучы ў Менску, дзядзька падкрэсьлівае, што ён вясковы чалавек і што паміраць вернецца да хаты свайго нараджэньня. Не ў малой ступені дзякуючы «штудыям» дзядзькі я адчуў сябе беларусам. Але на пачатку 90-х мы ўжо не размаўлялі, а спрачаліся. Па-беларуску. Я зь юнацкім імпэтам даводзіў, што трэба беларусізаваць усё жыцьцё краіны, дзядзька пярэчыў, што ўсё ад Бога — і ўлады, і мовы, і што трэба пакінуць вясковае вяскоўцам, а гарадзкое гараджанам. Дагэтуль у вёсцы нараджаюцца людзі, каб з часам паехаць у горад, каб навучыцца «языку», і жыць «як Бог дасьць». Але ў горадзе нараджаюцца іншыя, для якіх «мова», пакуль хай сабе й сымбаль, але самы галоўны.

Вёска захоўвае традыцыю. А горад абнаўляе традыцыю, стварае новую, якая мусіць прыйсьці ў вёску дзеля «захаваньня». Беларусь адродзіцца, калі горад і вёска сыдуцца ў адно. ■

# Вы пра мяне яшчэ згадаеце...

Сяргей ХАРЭЎСКІ

«Вы пра мяне яшчэ згадаеце...» — сказаў незадоўга да сваёй сьмерці Язэп Драздовіч. Беспрацоўны і бяздомны вандроўнік-мастак паміраў у чужой хаце ў поўным забыцьці. Але ён меў рацыю — узгадалі. Пасьля дзесяцігодзьдзяў нябыту...

Прыклад Драздовіча паказальны. Нам вядомыя тысячы імёнаў эўрапейскіх мастакоў і дойлідаў з часоў раньняга Адраджэньня, з канца XIII стагодзьдзя. Калі ж размова вядзецца пра нашае мастацтва ды архітэктуру, дык мы сустракаемся з парадоксам. Нават у эпоху барока, якая прынесла найбольшы плён, мы, маючы тысячы твораў ва ўсіх жанрах, можам па пальцах пералічыць мастакоў, чые імёны ведаем. Напрыклад, жывапісцаў Пятра Язэвіча ды Паўла Клачковіча, графікаў Тарасевіча, Вашчанку, Макоўскага... Прытым амаль нічога няведама пра іх біяграфіі. Правал у нацыянальнай памяці ахоплівае пэрыяд у некалькі стагодзьдзяў. У той самы час як у Эўропе імёны мастакоў і дойлідаў, іх жыцьцёвы й творчы шлях былі на слыху ў кожнага адукаванага чалавека. Чаму не адбылося гэтак у Беларусі?

Падказку дае гісторыя нашага стагодзьдзя. У Беларусі мастацтва да апошняга дзесяцігодзьдзя ніколі не існавала без улады. І як толькі мастак станавіўся па-за ўладаю, якая яго патранавала, карміла й рэклямавала, ён прападаў. Пакуль *господин* Мікешын за царом ставіў манумэнт да 100-х угодкаў перамогі над Напалеонам у Полацку, яго добра ўсе ведалі. Пасьля, як ня стала цара, скульптар зьехаў, помнік узарвалі, забылі. Пакуль *таварыш* Шагал быў камісарам у Віцебску, яго таксама ведаў кожны. Пры тым нікому не прыходзіла ў галаву аспрэчваць ягоныя эстэтычныя экспэрымэнты. Звольнілі, зьехаў, і забылі. Для іншых мастакоў лёс выпаў і наогул трагічна. Як для Рамана Семашкевіча, які перабег зь Вільні ў СССР. У Менску яго вельмі ж зашанавалі, прыцягвалі да ўдзелу ў выставах і ў афармленьні пэрыёдыкаў. Але кувадла хіснулася ня ў той бок, і ён мусіў быў хавацца ўжо ў Маскве, да свайго канца ў 37-м... Памяць пра яго таксама сьцёрлася.

Падобнае адбылося й з нашымі мастакамі папярэдніх эпох. Мяняліся й замалёўваліся абразы й партрэты, прападалі мастакі. А народ заставаўся статыстам. Молячыся на безыменныя абразы альбо пазнаючы магнацкі партрэт, беларусы не задумляліся над імёнамі іх творцаў.

Сёньня мы, на шчасьце, ведаем імёны Мікешына, Шагала, Семашкевіча. І не прыгадваюцца ўжо тыя высілкі многіх і многіх людзей, мастацтвазнаўцаў, публіцыстаў, мастакоў і літаратараў, якія вярнулі іх Беларусі. Як вярнулі і сьветлае імя Язэпа Драздовіча, цягам доўгіх пошукаў, цераз ідэалягічныя перашкоды. Той, хто быў на ўрачыстым адкрыцьці ягонае выставы ў Мастацкім музэі ў 1988 годзе, ніколі таго не забудзе. Колькі было радасьці, захапленьня й... скрухі, што ранейшая ўсяго гэтага скарбу ня бачыла цэлае пакаленьне.

Тым часам адно за адным, як непатрэбная ўжо збуцьвелая лістота, ападаюць і забываюцца імёны тых, хто працаваў на ўладу... ■




Фота IREX/ProMedia

*Васіль Быкаў на Дзяды ў 1996 годзе ля капліцы пры будынку КГБ. Улады разбураць гэтую капліцу*

# Дрэва

Зьміцер БАРТОСІК

Неяк я паспрабаваў зрабіць сваё генэалягічнае дрэва. Але намаляваная схема на дрэва паходзіла мала. Хутчэй — на птушку, адно крыло якой было ў два разы даўжэйшае за другое. Галавою гэтай непрапарцыйнай канструкцыі быў, вядома, я. А крыламі, адпаведна, адэскія палякі па бацьку і шматлікая ніжненаўгародзкая радня па маці. Размах крылаў забіраўся ў мінулае стагодзьдзе й ахопліваў немалую тэрыторыю ад Чорнага мора да Алтаю. Ня кажучы ўжо пра саслоўі.

Са схемы вынікала, што ўсе гэтыя людзі існавалі, любілі, дзейнічалі ды пакутавалі толькі дзеля таго, каб аднойчы абвясьціў сьвету пра сваё зьяўленьне я. Ніжнегародзкі нэгацыянт, купец першай гільдыі, будаваў свае даходныя дамы для таго, каб праз стагодзьдзе я глядзеў «Вія» — у кінатэатры, уладкаваным на першым паверсе аднаго з тых дамоў. А селянін зь вёскі Канстанцінава, які прыехаў на заробкі па Сор-

# Halloween і Дзяды

Алесь КУДРЫЦКІ

Джэк быў сквапным чалавекам і таму ня змог трапіць у рай. Аднак і ўваход у пекла быў для яго зачынены, бо Джэк жартаваў з д'ябла. Яму наканавана брысьці па зямлі аж да самага Суднага Дня, асьвятляючы свой шлях пустым кавуном з запаленай васкоўкай унутры. Джэк даўно заблукаў у нетрах ірляндзкіх легендаў, а вось яговымі ліхтарамі сёньня поўняцца ўсе крамы ад Сан-Францыска да Лёндану. Няважна, што яны зробленыя з плястмасы, паперы ці з чаго яшчэ — jack-o'-lantern даўно стаў сымбалем сьвята Гелоўін.

Больш за 2000 гадоў таму кельцкі новы год пачынаўся 1 лістапада. Надыход халодных і цёмных месяцаў адзначаўся фэстам, прысьвечаным Сэмгену — кельцкаму богу сьмерці. У IX стагодзьдзі пасьля Нараджэньня Хрыстовага царква прызначыла на 1 лістапада Дзень Усіх Сьвятых. Паганскія ды хрысьціянскія традыцыі зьмяшаліся, ды ўзьнік Гелоўін, што ў перакладзе азначае «вечар перад імшой Дня Ўсіх Сьвятых».

Што такое Гелоўін сёньня? Ды што заўгодна — галоўнае, каб было вусьцішна. Дзеці апранаюць маскі вядзьмарак ці пачвараў ды йдуць па суседзях — атрымліваць пачастункі. Багацейшыя сем'і так «упрыгожваюць» свае дамы штучнымі шкілетамі ды іншымі аздобамі, ад якіх так халонее сэрца, што там можна было б зьняць адзін з тых фільмаў жахаў, што абавязкова йдуць у кіно ды тэлевізіі 31 кастрычніка.

У інтэрнэце можна знайсьці ўсё, пачынаючы адмысловымі рэцэптамі сьвяточных страваў кшталту жэле ў выглядзе чалавечых мазгоў пад брусьнічным соўсам і канчаючы парадамі, як зьберагчы сваіх дзяцей ад гвалту ды няшчасных выпадкаў пад час Гелоўіна.

Што нам да гэтага сьвята? Як ні дзіўна, з кожным годам Гелоўін пакрысе ўвахозіць у беларускае жыцьцё, так, як Дзень Сьвятога Валянціна, які паціху, але ўсё ж выцясьняе 8 сакавіка ды 23 лютага. І калі савецкія сьвяты нам заўжды непрыхавана навязваліся, дык заходнія «прыходзяць самі» — праз мэдыі, інтэрнэт, школу. У школах з паглыбленым вывучэньнем ангельскае мовы сьвяткаваньне Гелоўіна ўжо амаль зрабілася традыцыяй. На клюбныя вечарынкі «Helloween Party» ў «Альтэрнатыве» ды «Happy Halloween» у «4 апэльсынах», якія праводзіліся 31 кастрычніка, прыйшоў сьвет народу.

Ці трэба баяцца Гелоўіна? Ці ўсе гэтыя «заходнія» сьвяты ёсьць яшчэ адным уплывам, які ўносіць дадатковую блытаніну ў беларускія галовы? Сталыя людзі, вядома, сваіх завядзёнак ня зьменяць, а вось большасьць моладзі будзе рабіць выбар на карысьць яскравых і модных сьвятаў. Модным сьвяты робіць рэклама, а рэкламу робіць бізнэс, які, у сваю чаргу, вымушаны задавальняць патрэбы спажыўцоў.

Калі Гелоўін і прыйдзе ў Беларусь, дык зможа мірна суіснаваць зь Дзядамі. Як карнавал, які папярэднічае посту. ■

# маіх продкаў

маўскі завод, ніяк ня марыў пасьля сваёй сьмерці парадніцца зь мільянэрам. І абодвум ім было да лямпачкі тое, што на другім канцы імпэрыі, у далёкай Адэсе, нейкі дробны гандляр жывой рыбай Франц Бартосік набыў свайму сыну Анатолю гітару. Пройдзе невялікі час, і ўспыхне полымя першай вайны, на якой загіне сормавец, а пасьля закруціцца кола расейскай рэвалюцыі, якое разduшыць паборніка «Дамастрою» і створаны ім сусьвет. І XX-е стагодзьдзе, складзенае зь незаўважных і вялікіх падзеяў, будзе гуляць лёсамі людзей дзеля... Дзеля майго зьяўленьня на сьвет! Як вынікае са схемы.

Дзеля гэтай падзеі мой дзед Анатоль Бартосік адаб'е ў эвакуацыйным Барнауле генэральскую жонку, а сын рэпрэсаванага купца закахаецца ў дачку сормаўскага работніка. І дзеля гэтага іхныя дзеці прасякнуцца Мэльпамэнаю, каб, скончыўшы тэатральныя вучэльні, сустрэцца ў заштатным і галодным горадзе Рыбінску. У якім і адбудзецца канцовая падзея маёй эгаістычнай схемы.

...Я сяджу за кампутарам у краіне, пра існаваньне якой людзі з майго «дрэва» і не здагадваліся, і марна намагаюся вынайсьці нейкі іншы сэнс гэтай галаваломкі. Быццам унікаю той адказнасьці, так дорага дзеля мяне аплочанай задоўга да майго нараджэньня незнаёмымі паміж сабою людзьмі. Яны не напісалі вялікіх кніг, не зрабілі векапомных адкрыцьцяў, іх прозьвішчы ды імёны нікому нічога ня скажуць. Нікому, акрамя мяне. Нібы выкінутыя акіянам часу, на маім стале ляжаць завушніцы фірмы Марозава, некалі падараваныя састростам ніжненаўгародзкага кірмашу сваёй будучай нявестцы, маёй бабці. А ў матчынай спальні вісіць ікона, на якую некалі малілася мая сормаўская прабабка. Можа, галоўны пункт у намаляванай мною канструкцыі — зусім ня я, а тое, што сярод гэтых людзей не было злачынцаў і нягоднікаў? Дзякуючы чаму мне ня страшна маляваць гэтае «дрэва»? І ня сорамна некалі стаць яговым працягам. Калі так, дык гэта сапраўды нямала. ■

# Шукальнікі скарбаў

Федарэнка Андрэй. **Шчарбаты талер:** Аповесьць, апавяданьні. — Менск: Юнацтва, 1999. — 207 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0307-6

Беларускія пісьменьнікі здавён ставілі сабе няпростую задачу — ствараць прыгодніцкія творы, ад прачытаньня якіх каб дух займала. Найперш гэта тычыцца літаратуры для дзяцей. Бо калі для старэйшага школьнага веку сёе-тое пасьпелі напісаць, дык для 10-12-гадовых хлапчукоў і дзяўчынак акрамя «Міколкі-паравоза»ды «Палескіх рабінзонаў» нічога, бадай, болей і не ўзгадаеш.

Гэтым разам іспыт на зададзеную тэму трымаў А.Федарэнка і ягоная праца «Шчарбаты талер». Няма нічога заганнага, нават калі старую легенду распрацоўваць другім-трэцім разам, але карыстацца пры гэтым уласнымі сродкамі і прыёмамі дзеля дасягненьня вышэй азначанай мэты.

Напэўна, кніжка А.Федарэнкі будзе не зусім цікавай для дарослых дзядзькоў, якія маюць пэрсанальны кампутар і электронную пошту. Але, калі ў дадатак маюць дзетак у згаданым веку, дык шчыра раім на прачытаньне «Шчарбаты талер». Аднак, каб пазьбегнуць непаразуменьня, засяроджваем увагу на наступнай акалічнасьці — кніжка мае выразна азначаную аўдыторыю — для сярэдняга школьнага веку. Знарок пішу пра гэта, каб пазьбегнуць таксама беспрадметнай дыскусіі. Кніжка будзе карыснай для дзетак, якія з захапленьнем прачытаюць пра пошукі скарбу напалеонаўскага войска. Гэтаксама карыснай яна будзе й для дарослых, якія змогуць у поўнай меры атрымаць асалоду ад успамінаў пра гады маленства, бо хто з нас ня быў шукальнікам скарбаў?

Сёньняшнім дзеткам далёка не ва ўсім пазайздросьціш, але ў адрозьненьне ад пакаленьняў, якія гадаваліся за савецкай уладай — ім ёсьць што чытаць. А тыя часы, калі ўся гісторыя Беларусі месьцілася ў адным, невялічкага памеру, падручніку, разьлічаным адразу на сем гадоў (з 4 па 10 клас), адышлі назаўсёды ў нябыт.

Г.Туровіч

навіна




**Выйшлі «Дзяды» Адама Міцкевіча ў перакладзе на беларускую Сяргея Мінскевіча**

С.Асіноўскі. **Менск: Даведнік.** — Менск: Полымя, 1999. — 144 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-07-0204-4

*Даведнік пра Менск выйшаў з нагоды сьвяткаваньня сёлета 500-х угодкаў наданьня гораду Майдэборскага права. Новая кніга адрасаваная замежніку, таму зробленая ня толькі ў беларускай, але і ў ангельскай мовах. Аўтар падае кароткі нарыс гарадзкой гісторыі, факталягічны матар'ял дапоўнены іканаграфічным, палова выяваў — малюнкі Віктара Сташчанюка, палова — фота савецкай архітэктуры. Вокладка балотна-зялёнага колеру. Недакладнасьці ў тэксьце могуць быць неістотныя для замежнага чытача, а вось у беларускага радкі кшталту «адна з вуліц носіць імя Аляксандра Чарвякова — старшыні першага беларускага ўраду» выклічуць пытаньне: што ёсьць першым беларускім урадам — Народны Сакратарыят БНР 1918 г., студзеньскі ўрад ССРБ Зьмітра Жылуновіча 1919 г. ці чарвякоўскі — ліпеня 1920 г.?*

С.Асіноўскі. **Поле памяці: Постаці й падзеі беларускае мінуўшчыны.** — Менск: Полымя, 1999. — 176 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-07-0293-0

*Гэта працяг кнігі Сьвятаслава Асіноўскага «Там, дзе была Нэрыда». Як і ў папярэднім выданьні, гістарычныя нарысы, разьлічаныя на масавага чытача, паходзяць з часапіса «Беларуская мінуўшчына», дзе аўтар перад тым іх друкаваў. Гэтую кнігу варта даваць чытаць «несьвядомым».*

**Беларуская энцыкляпэдыя:** у 18 тамох. Т.8: Канто — Кулі / Рэд. калегія: Г.Пашкоў ды іншыя. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 1999. — 576 с.: іл. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-11-0144-3 (т. 8) ISBN 985-11-0035-8

Н.Гілевіч. **Збор твораў.** Т.2: Вершы і паэмы 1987—1992. Родныя дзеці: Раман у вершах. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 335 с., (4) арк. іл. — Наклад 3500 ас. ISBN 985-02-0371-4

*Ужо колькі гадоў мінула ад выданьня першае кнігі, і, здавалася, пахавалі ў «Мастацкай літаратуры» Гілевічаў шматтомнік. Але ж выйшаў. Каштуе 400 і трохі болей тысячаў.*

Т.Грамадчанка. **Беларуская літаратура.** Школьныя творы: Кароткі зьмест і аналіз / Мастак А.Цароў. — Менск: ТАА «Аверсэв», 1998. — 463 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6389-10-0

**Дзеля блізкіх і прышласьці:** Матар'ялы міжнароднае навукова-практычнае канфэрэнцыі «Унівэрсытэты Ельскіх» (да 165-годзьдзя ад дня народзінаў А. Ельскага) (Менск, 7 кастрычніка 1999 г.) / Бел. ун-т культуры; Рэд. калегія: А.Пазьнякоў (адк. рэд.). — Менск: Бел. ун-т культуры: Рэклямна-выдавецкая фірма «Ковчег», 1999. — 156 с.: іл. — Наклад 200 ас. ISBN 985-6579-15-5

*Упершыню ў асобным выданьні сабраныя дакумэнты й працы, што адлюстроўваюць гісторыю роду Ельскіх, іхны ўнёсак у беларускую й эўрапейскую культуры. У зборніку сярод іншых працаў друкуюцца невядомыя лісты Канстанцыі Скірмунт, кузэнкі Рамана Скірмунта, аднаго з прэм'ераў Ураду БНР у 1918 годзе. Вялікую цікавасьць мае «Кніга для запісу...» наведнікаў музэю Аляксандра Ельскага ў Замосьці канца XIX ст. з 234 аўтографамі дзеячоў беларускае й польскае культураў, у якой ёсьць два запісы па-беларуску — пра яе піша Ўладзімер Мархель. Кніга ілюстраваная. Каб прачытаць яе ці набыць, трэба зьвяртацца ў Аддзел рэдкае кнігі Беларускага ўнівэрсытэту культуры.*

Ф.Кушаль. **Спробы стварэньня арганізацыі беларускага войска.** — Менск: Беларускі Гістарычны Агляд, 1999. — 166 с. — Наклад 299 ас. ISBN 985-6374-16-2

*Упершыню на бацькаўшчыне — кніга ўспамінаў Францішка Кушаля, аднаго з стваральнікаў беларускіх вайсковых фармаваньняў. У дадатку — біяграфія Ф.Кушаля аўтарства ягонае жонкі, паэткі Натальлі Арсеньневай, успаміны Вітаўта Тумаша, а таксама каштоўныя дакумэнты й малюнкі формы жаўнераў БКА. У тэксьце — рэдкія фотаздымкі добрай якасьці часу БНР. Цана 500 тыс., кніга вельмі вартая.*

М.Лужанін. **Наўздагон за падвойнікам:** Аповесьць. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 222 с. — Наклад 1200 ас. ISBN 985-02-0386-2

**Родны край:** Адрыўны каляндар на 2000 год. Рэдактары-складальнікі В.Балвановіч, В.Кудзіна. — Менск: Беларусь, 1999. — Наклад 3500 ас.

*Апошні ў гэтым тысячагодзьдзі беларускі адрыўны каляндар «Родны край» прадаецца ўва ўсіх кнігарнях краіны за 199 тысячаў. Звычайна яго хутка раскупляюць.*

А.Сідарэвіч. **Самавызначэньне беларускай сацыял-дэмакратыі.** Антон Луцкевіч (Сэрыя «Гісторыя і тэорыя сацыяльнай дэмакратыі»). — Менск: Фонд сацыяльных ініцыятываў і дасьледаваньняў імя братоў Луцкевічаў, 1999. — Наклад 299 ас.

**Сучасная беларуская рэжысура:** Пошукі мастацкіх адметнасьцяў у кантэксьце традыцыйнага эўрапейскага тэатру: Зборнік матар'ялаў міжнароднае навукова-творчае канфэрэнцыі (Менск, 16—17 кастрычніка 1997 г.)/ Навучальны дапаможнік для навучальных установаў культуры й мастацтва. — Менск: Арты-Фэкс, 1998. — 314 с.: іл. — Наклад 250 ас. ISBN 985-6119-11-1

М.Улашчык. **Працы з археаграфіі й крыніцазнаўства гісторыі Беларусі:** З рукапіснае спадчыны / Уклад. Я.Кісялёў, В.Скалабан. — Менск: БелНДІДАС, 1999. — 120 с. — Наклад 100 ас. ISBN 985-6099-56-0

*Кніга, на што паказвае наклад, выдадзеная для спэцыялістаў. М.Улашчык ня толькі гаворыць пра дасягненьні беларускае археаграфічнае навукі, але й дакумэнтальна высьвятляе распаўсюджаныя на той час штампы й перадсуды ў дачыненьні да беларусаў як самастойнага суб'екту гісторыі.*

А.Федарэнка. **Шчарбаты талер:** Аповесьць, апавяданьні. Для сярэдняга школьнага веку/ Мастак В.Дударанка. — Менск: Юнацтва, 1999. — 207 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0307-6

*З рукапісу гэтага дэтэктыўнага твору рэдакцыя выдавецтва выкінула фрагмэнт, дзе настаўнік гісторыі распавядае дзецям пра бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня» ды гаворыць пра «клопат» беларускае дзяржавы пра нацыянальную культуру.*

Академик Г.Мирчинк. **Знаток истории Земли** / Уклад. Л. Турбіна. Пад рэд. Р.Гарэцкага. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 79 с.: іл. — (Сэрыя «Людзі беларускае навукі»). — Наклад 250 ас. ISBN 985-08-0147-6

А.Супрун. **Церковнославянский язык:** Учебно-методическое пособие. — Менск: Прапілеі, 1999. — 52 с. — Наклад 300 ас.

Чытаў кнігі Віктар Мухін

# ТАМ І ТАДЫ

***26 кастрычніка галерэя візуальных мастацтваў «NOVA» запрасіла на адкрыцьцё выставы сучаснай беларускай фатаграфіі «Там і тады»***

Пасьля паўгадавога перапынку на рэпарацыю, якая зрабіла галерэю адной зь лепшых выставачных заляў Менску, гледачам дэманструюць свае творы 12 фотамастакоў, сярод якіх Сяргей Ждановіч, Віктар Жураўкоў, Валеры Картуль, Алена Мулюкіна, Аляксей Паўлюць. Задума кіраўніка галерэі Ўладзімера Парфянка выходзіла вось з чаго: момант асабістага, нават інтымнага ўспрыманьня рэчаіснасьці фатографам, які ўспрымае яе «тут і цяпер», не супадае з момантам успрыманьня фотаадбітку гледачом — для яго ён ужо «там і тады», ужо сьвята паездкі на машыне часу. Аўтарам было прапанавана прадэманстраваць творы як бы з вандровак «туды», у іншую рэальнасьць, па-за межы нашай вёскі Менск, на вуліцах якой ужо даўно ня ўбачыш чалавека з фотаапаратам, які даўно адмовіўся ад пошукаў іголкі ў сваім стагу сена, які зьдзіўляе толькі сваім холадам. Выстава прадэманстравала няздольнасьць прытамлёнага праблемамі творцы зрабіць гэта. Ён прагна зазірае ў вочка дзьвярэй, падглядае ў замочную адтуліну, імкнучыся ўбачыць на тым баку дзіва, відовішча, экзотыку, а бачыць там — краявіды, разбураныя фэрмы, абшарпаныя інтэр'еры, звычайныя газоны...

Выстава экспануецца да 26 лістапада. Наведаць яе можна на вуліцы Веры Харужай 16, у Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы, у панядзелак, сераду, чацьвер, пятніцу з 11-й да 18-й. Даведацца можна праз тэл.: 234-43-51.

**Дзяніс Раманюк**



*Фота Міколы Парфянка «Няпэўныя зьвесткі зь месца падзей». Здымак з выставы «Там і тады»*

# Чарнаватыя жарты

Адам ГЛЁБУС

* * *

Ня ты паміраеш ад інфаркту, а сэрца пасылае цябе к чортавай матары.

* * *

Плягіят мае наступныя маскі: імправізацыя, варыяцыя, вэрсія і, нарэшце, акадэмічная школа ў нацыянальных традыцыях.

* * *

У тырана не бывае сяброў, бо найбліжэйшыя паплечнікі мараць яго забіць і раней ці пазьней так ці інакш забіваюць.

* * *

Сярод вайскоўцаў ня знойдзеш ніводнай незаплямленай асобы.

* * *

На ўсіх рэфэрэндумах задаецца толькі адно пытаньне... Ці хочаш ты жыць? Адказ запраграмаваны. А гэтыя: як? з кім? — дэталі.

* * *

Нельга чыста прадаць адразу і ўсё, у гэтым сутнасьць гандлю.

* * *

Грэшнік, які раскаяўся, усё адно застанецца грэшнікам, хай сабе й раскаяным грэшнікам, які ня змог захаваць таямніцу. Пра гэта добра ведаюць дзяржава, паліцыя й царква, яны жывуць за кошт грэшнікаў, што пакаяліся.

* * *

Надыходзіць час адрачэньняў, і варта адрачыся ад зробленага незалежна ад якасьці даробку.

* * *

Калі ты гатовы ахвяраваць сабою, звычайна ня ведаеш, дзеля каго; а калі ведаеш — не гатовы.

* * *

Каб стаць айцом нацыі, напачатку варта пабыць яе каханкам ці мужам.

* * *

Ёсьць народы бяз гімнаў, як і гімны без народаў.

* * *

У шыбеніцы не бывае кветак, а плады бываюць.

* * *

Гэта кніжнікі прыдумалі, што напачатку было слова і думкі выкладаюцца выключна словам. А шмат якія думкі выдатна абыходзяцца і бяз слова... Музычныя, жывапісныя, архітэктурныя... ■

слоўнік паняцьцяў

# 12. ПРА ГІГАНТАМАНІЮ І МЭГАЛЯМАНІЮ.

Валерка БУЛГАКАЎ

Тое, пра што пойдзе гаворка ніжэй, так ці інакш знаёмае кожнаму. Доўгі час асноўным паказьнікам пасьпяховасьці пачынаньняў у сфэры «народнай гаспадаркі» была іхная велічыня. У 60-х нам казалі: «будынак Менскага дзяржаўнага цырку самы вялікі ў Эўропе», што само сабою азначала, Менскі дзяржаўны цырк — найлепшы ў Эўропе, у 80-х нас пераконвалі: «комплекс вытворчых магутнасьцяў і памяшканьняў менскай ЦЭЦ-4 ня мае аналягаў у Эўропе» — пры гэтым грудзі прамоўцаў аж расьпірала ад цалкам зразумелай радасьці. Як-ніяк, такая махіна, такая велічыня. Цяпер нешта такое кажацца пра Жлобінскі мэталюргічны завод і запушчаны нядаўна ў вытворчасьць менскі тралейбус-гармонік, які пакуль што ў колькасьці аднаго экзэмпляру абслугоўвае менскі маршрут нумар 9. У апошняга, праўда, перавага яшчэ значна большая — ён самы эрганамічны ў сьвеце.

Савецкі чалавек любіў і любіць тое, што вялікае і шырокае, яго насьцярожвае ўсё дробнае і малагабарытнае. У апошнім ён бачыць праявы абмежаванасьці і [нацыянальнай] замкнёнасьці.

Агромністая савецкая каляніяльная імпэрыя была апантаная маніяй велічы. У сваіх вонкава бясьпечных праявах гэтая манія вальготна пачувалася і ў масавай сьвядомасьці савецкіх грамадзянаў. Той істэрычны тэатар, які разгортваецца перад намі апошнія восем гадоў, зь яго надрыўнымі галашэньнямі па «вялікай радзіме», злаславімі праклёнамі ў адрас яе разбуральнікаў і сутаргавымі скачкамі праз уласны голаў — лепшае таму пацьвярджэньне.

Чыста па-чалавечаму можна зразумець гэтую неспатольную жарсьць да бясконцых прастораў і неабсяжных абсягаў. Нездарма ж камунізм сьпярша будавалі расейцы і манголы. Засмучае іншае: наколькі стромкія карпусы фабрык і заводаў, гонкія ангары, выкананыя з жалезабэтонных канструкцый, пакідаюць у сваім цені чалавека.

Для кожнай імпэрыі прага да *superpower*, прэтэнзія на паўсюднасьць і праектаваньне выпрацаванага ў сябе сьветапарадку на іншых ёсьць нечым неабходным, неўнікнёным. Прага да *superpower* — гэта адна з цнотаў кожнай імпэрыі. Для ўзглядна ж невялікіх недаакрэсьленых тэрыторыяў накшталт Беларусі гэткі некрытычна засвоены імпэрскі комплекс крые ў сабе пагрозу несувымернасьці. Нездарма тутэйшыя маскалі і маскалікі шмат якія свае развагі пачынаюць з сакрамэнтальнага: «У такой маленькай рэспубліцы...»

Несувымернасьць — адна з найбольш кідкіх адзнакаў нашага сучаснага жыцьця. Несувымернасьць паміж прэтэнзіяй на гранічную мудрасьць і сьвятасьць улады і рэальнай мерай распусты сярод вярхоў, паміж ілюзіяй вяршэнства закону і паўсюдным і паўсядзённым яго пападтаньнем, нарэшце, паміж гучнымі пампэзнымі фразамі і мізэрнымі нікчэмнымі справамі. ■

дзёньнік маладога спэцыяліста

# СЭКСУАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

Сяргей БАЛАХОНАЎ

Як ня дзіўна гэта гучыць, але сэксуальная рэвалюцыя, пра якую так доўга сьпявалі «*Army of Lovers*», закранула, хай сабе й няроўнаю мерай, беларускае людзтва. Даўненька ўжо многія не ўстыдаюцца пры людзёх гаварыць «пра ета» і нат актыўна ўжываюць слова «сэкс», няважна зь якою эмацыйнай афарбоўкай. На станцыі Гомель-Няцотны спрачаліся раз няпэўнага веку паляўнічы на мухаморы і стопрацэнтовая каргота. Спрачаліся наконт юрлівасьці мужыкоў, тэмпэрамэнту жанок, высьвятлялі ўрэшце пытаньне: «Ці ў гэтым жызьня?» — і бабця ўпарта адказвала на тое адмоўна.

Што цікава, пэтэвэшнікі-сельскагаспадарнікі з Прыбара, колькі мне зь імі ні прыпадала езьдзіць у адных вагонах, літаральна як рыбы пад ільдом маўчаць «пра ета». Балакаюць пра машыны, трактары, курэньне, пра што заўгодна, толькі не пра сэкс.

Праўда, нейкія дзьве сіповачкі аднойчы ехалі ды пра мальчыкаў гутарку вялі. Дык адна, з пульхнымі вуснамі ды пругкімі персямі, у пераліку хлапечых імёнаў колькі разочкаў выдыхала: «Я зь ім» — і рабіла ўказальным і сярэднім пальцамі нажніцы, нібы рэкламуючы вядомую чакалядку.

У Белым Балоце існуе ўстойлівае словазлучэньне «пірэць баб», якім спрэс паслугоўваюцца многія школьнікі. «Інагда ён пасьля клюбу ходзіць пірэць баб», — напісаў адзін вучань у сачыненьні пра свайго сябра Івана Чэмыртана. Калі юныя балацяне разважаюць пра сэкс, то часьцяком блытаюцца ў сваіх думках. То распавядаюць пра нейкую шлюхтыню, тутэйшую «ўсіхную сяброўку», якая вяртаецца пасьля «гульбы» ў клюб, а «ногі ў яе калясом». То катэгарычна заяўляюць, што дзяўчаты ў Б.Б. «усе чысценькія, ня тое што ў вашым Гомелі». Горад у іхным уяўленьні — кодла зла.

— Када ты ўжэ ўспакоісься? — спытала аднойчы статненькая, гарадзкога выгляду, дзевяцікласьніца свайго сувучня з тыпова калхозным рылам.

На тое ён без усялякіх хістаньняў простым тэкстам адпавёў:

— Тада, када цібя іспорчу...

Дурдом на вуліцы Школьнай. Настаўніка не саромеюцца ані капкі. У 11-й клясе дзяўчаты свабодна згадвалі, што Анжэла ў чужой кравацi пасеяла завушніцу, а Марына ў чыейсьці машыне забыла сарочку начную.

У гэнай клясе ё адна ціха глузданутая на «етых» справах. Па тутэйшых легендах ведама, што на яе паквапіўся былы в.а. гісторыка, а яна пра ўсё давяла да мамы. Што там было насамрэч, казаць цяжка. Але бачу, што яна аж вылузваецца, хоць і ў досі прыстойных рамках, каб і я зьвярнуў увагу на яе.

Калі прыяжджаеш дадому, то пачуваеш сябе такім прытомленым, нібы масьціў цалюткі дзень дарогу ў сьветлую будучыню. Са школы сэксуальнай рэвалюцыі. ■

# Ніна Мацяш

## Лістападнае рэха

Холадам-холадам вее зь ліста,
Нібы з таропка прыбранага поля, —
Пожняю крыўды, гаркоты кукольлем,
Пусткай і холадам цягне зь ліста...

Мой чалавеча, дзе ж радасьці ўзяць,
Той, каб магла Вас на крыльлі
загушкаць?..
На далані маёй — мёртвая птушка,
Ёй і самой ужо крылаў ня ўзьняць.

Ёй і самой ужо ўвыш не ўзьляцець, —
З рук не маіх, бо Вам прагнецца ўцехі...
З поля ліста — лістападнае рэха
Болю, якому смылець і смылець...

## Тут і цяпер

Тут
і цяпер
няўступна ўнушаецца,
што паныласьць —
нармальны стан чалавека,
а прыязная ўсьмешка —
гэта шчырасьць
маскі.

Тут
і цяпер
ваявіта даводзіцца,
што хлусьня —
гэта чыстая праўда,
што ж да праўды самой,
то яе
увогуле не існуе,
а, значыцца,
няма і хлусьні.

Тут
і цяпер
расхлябенены
усе дзьверы построху,
каб замкнуліся вусны
на пытаньні
пра духаўздымнае вызваленьне,
магчымае тут
і цяпер.

Покуль ёсьць адважнікі,
будуць і баязьліўцы.
Покуль ёсьць баязьліўцы —
будуць адважнікі.

Лунае высокае рэха:
Яднаймася!
Тут і цяпер!

## Накідаюць

Вецер водарыць упарта
Першацьветаваю цнотай.
...Накідаюць мне пагарду.
Сьвет ня варты пашаноты.

На стаптаны поплаў выйду —
У сіле шарону раньне.
...Накідаюць мне агіду.
Сьвет ня варт замілаваньня.

Што мінецца хмараў навісь —
Суцяшэньнейка слабое.
...Накідаюць мне нянавісьць.
Сэрца плача па любові.


Фота Дзяніса Раманюка

# МЕСЦА СЛАБЫХ У ДУШЫ СУЧАСНАГА СЬВЕТУ

Жан ВАН'Ё

У чым глыбінны сэнс існаваньня разумова адрозных («разумова адсталых») людзей? Ці ёсьць у іх сваё месца ў грамадзтве і ці ня маюць яны сваёй ролі ў гісторыі развіцьця цывілізацыі? З такімі пытаньнямі сутыкаецца той, хто стала працуе з гэтай катэгорыяй людзей, і такія ж пытаньні ўзьнікалі цягам усёй гісторыі чалавецтва. Прыкладам, Плятон і Арыстотэль сьцьвярджалі, што калеку трэба забіваць у маленстве, бо чалавек, які ня здольны рацыянальна мысьліць або эфэктыўна працаваць, ня мае права існаваць увогуле. Ня варта марнаваць час і грошы на догляд.

Для больш духоўных культураў характэрнае іншае стаўленьне. У многіх рэлігійных цывілізацыях (і ў старажытным Кітаі) разумова адрознага чалавека лічылі набліжаным да звышнатуральных сілаў, пасярэднікам паміж чалавецтвам і багамі.

Між гэтымі полюсамі месьціцца заходняя гуманітарная традыцыя, згодна зь якой разумова адрознага чалавека ня сьлед забіваць, але ён ня ёсьць і істотай, набліжанай да Бога. Гэта чалавек, але няпоўны, дэфэктны, адсталы. Тут да такога чалавека ставяцца як да дзіцяці, да «дзіцяці» да скону. Яго ня трэба зьнішчаць фізічна, яму трэба ствараць прымальныя ўмовы, знайсьці які занятак. Магчыма, зь іх можна нават мець нейкую карысьць. Асобныя хворыя на сындром Даўна абслугоўваюць станкі й атрымліваюць прыстойную зарплату. Але ці дастаткова ацэньваць у адрозным чалавеку толькі здольнасьці да працы, бачыць у ім работніка, хай сабе й не зусім паўнавартаснага? Гэта пытаньні філязофскія, і слушнасьць кожнай пазыцыі не падлягае доказу ў прынцыпе. Хто дакажа, што разумова адрозны — не зусім чалавек? Хто зможа даказаць, што ён ня мае вартасьці ў вачах Бога?

На маю думку, існуе чацьверты шлях. Безумоўна, разумова адрозны чалавек многа «згубіў» з гледзішча навуковых і рацыянальных магчымасьцяў, практычнага розуму. Рацыянальнае «я» неабходнае асобе, каб стаць актыўным членам грамадзтва. Але ж чалавек ёсьць ня толькі грамадзкім стварэньнем, якое вымушана біцца за месца ў сьвеце і сваю бясьпеку. Гэта яшчэ й жывая істота, якая хоча любіць сама і каб яе любілі таксама, хоча жыць у кантакце зь іншымі. Для актыўнага чальца грамадзтва неабходнае моцнае «я». Але для стасункаў з другімі асобамі патрэбныя іншыя якасьці. Выклікаць захапленьне і быць любімым — розныя рэчы.

Сярод нас ёсьць людзі таленавітыя, якія ўмеюць добра дзейнічаць, кіраваць. Але іх сэрцы нібы мёртвыя: яны ня ўмеюць спачуваць. Яны дасягнулі незалежнасьці й самастойнасьці, але адкінулі частку саміх сябе, бо згубілі здольнасьць наладжваць глыбокую сувязь зь іншым чалавекам. Яны толькі падпарадкоўваюць. Сэнс такога жыцьця — адчуваць сваю перавагу.

І ёсьць іншы тып людзей. Нягледзячы на разумовыя й тэхнічныя здольнасьці, іх сэрцы не застылі, яны ўмеюць трымаць кантакт зь іншай асобай і спачуваць. Іх адкрытыя, празрыстыя сэрцы прамяняць цяпло і дабрыню. Гэтыя галоўныя вартасьці чалавечай душы тояцца не ў рацыянальным «я», а ў глыбейшым, часта патаемным «я». Такім чынам, у чалавеку жывуць ня толькі сьвядомасьць розуму, але й сьвядомасьць любові, якая адкрывае яго іншым людзям.

У адрознага розумам сьвядомасьць любові нашмат ярчэйшая, чым у іншых, настолькі больш развітая, наколькі менш развітая сьвядомасьць рацыянальная. Ён развіваецца не ў накірунку стваральнасьці, а ў сфэры дружбы. Адрозны розумам цалкам давярае іншым, гэта чалавек наіўны, і тым часта й прыцягвае. Яго першая рэакцыя — ня крытыка, а давер. У сьвеце, дзе кіруюць абыякавасьць і нянавісьць, гэты кліч любові асабліва каштоўны. Адрозныя розумам валодаюць не рацыянальнай свабодай выбару, але свабодай быць сабою. Гэта істота, якая хоча ня столькі праявіць сябе, колькі проста быць, якая здольная быць чулай, умець захапляцца.

Аднак паколькі ён пачувае сябе няўпэўнена, дык калі яму пагражае небясьпека, сьвядомасьць любові хаваецца, моцны страх выцясьняе яе. Ніводзін чалавек ня здольны заставацца ў такім стане, і ён альбо становіцца агрэсіўным, альбо патанае ў цемры неўсьвядомленага. Спэцыялісты, якія займаюцца з адрознымі ў шпіталях, дзе дэфэктыўных людзей многа і дзе сьвядомасьць любові ня можа развіцца, аднначаюць выключную слабасьць хворых. Яна праяўляецца ў нежаданьні жыць, схільнасьці да агрэсіі, нястрымным апэтыце й інш.

Затое той, хто жыве ў людзкіх, здаровых умовах, дзе яго паважаюць, любяць як непаўторную істоту, што мае сваю каштоўнасьць — той адчувае сваю слабасьць інакш. Яна дапамагае развіваць сьвядомасьць любові, выяўляе здольнасьць прынесьці чыстую і радасную ахвяру, і таму стварае сяброўскую атмасфэру.

У сьвеце, які ўсё болей камянее, у якім людзі вымушаныя больш інтэнсыўна працаваць, каб павялічыць сваю маёмасьць, у якім не паважаюцца сардэчныя парываньні, адрозныя розумам займаюць сваё асаблівае месца. Яны маюць час, каб прыглядацца, захапляцца, любіць — яны нібы ўвесь час нагадваюць аб вартасьці братэрства. Іх існаваньне — знак, што мір, радасьць, шчасьце ня ёсьць вынікам толькі працы й не залежаць ад багацьця. Гэтыя людзі самі сабою ёсьць засьцярогай: калі чалавек не скарыстоўвае ўсе свае жыцьцёвыя сілы, свае здольнасьці дзеля стварэньня справядлівага братэрскага сьвету, дык сьвет увогуле спыніць існаваньне й спаўзе ў прорву страху, барацьбы й агню.

Аднак яшчэ ў большай ступені адрозны розумам ёсьць выклікам для нас. Яго слабасьць, чысьціня, даверлівасьць (калі ён існуе ў спрыяльных умовах) заклікаюць тых, у каго ўлада, да праявы дабрыні. Слабы чалавек мае прыцягальную сілу, і калі ты не давеў сябе да скрайняй абыякавасьці, нельга не рэагаваць на яго любоў. Менавіта слабыя ў стане разбурыць мур, які мы ўзьвялі вакол сваіх сэрцаў з-за боязі другога чалавека.

Такая роля слабога ў грамадзтве і развіцьці сьвету: ён нагадвае пра каштоўнасьць сардэчных братэрскіх дачыненьняў, не дазваляе грамадзтву скамянець у асяродку тэхніцызму й халоднай рацыі. Калі мы застанемся абыякавымі да гэтага покліччу слабых істот — барацьба будзе доўжыцца, гэта будзе гонка гвалту, зброі, найскладанейшых тэхналёгіяў. Калі ж грамадзтва і кожны чалавек асобна заміж змаганьня за ўладу і славу заўважаць каштоўнасьць слабых і захочуць дапамагчы ім, наша існаваньне сыдзе са шляху распаду на шлях адзінства. У здольнасьці любіць і адказваць на любоў мы ўсе роўныя. Няўжо ж мы настолькі задаволеныя сабою, што ня ўздымемся супраць несправядлівасьці? Няўжо мы пачуваемся такімі багатымі ды ўзвышанымі, што не пачуем клічу слабых?

**Пераклала з францускай Сьвятлана Пячкова**

**Жан Ван'ё** — заснавальнік спэцыяльных прытулкаў-абшчынаў для разумова адсталых. Былы марскі афіцэр, вывучаў філязофію й тэалёгію. Стварыў два тыпы грамадаў: «Каўчэг» (1965) для дарослых і «Вера і сьвятло» (1971) для сем'яў з разумова адсталымі дзецьмі. Асноўны прынцып — недапушчэньне інтэлектуальнай дыскрымінацыі.

# 125 ГАДОЎ ТАМУ



Фота Язэпа Чаховіча

Замкавая гара і Катэдра ў Вільні. Здымак 1874 году

**1874.** Адміністрацыя «Паўночна-Заходняга краю» сьвяткуе 10-я ўгодкі задушэньня апошняга ў XIX стагодзьдзі беларускага паўстаньня. Тагачасная расейская літаратарка Н.Ланская так ахарактарызавала публіку, што за папярэднія тузін гадоў папоўніла насельніцтва Беларусі больш чым на шэсьцьсот тысяч пэрсонаў: «Сюды імкнуліся ўсе, хто быў чымсьці незадаволены ў сябе дома... Гэта было балявaньне, на якое ішлі ўсе, каму не было чаго губляць, у каго нічога не засталося за душою... Як саранча, кінуліся яны на падрыхтаваныя месцы, сьпяшаючыся захапіць усю тую прастору, што была для іх гвалтоўным чынам ачышчаная». Беларусы, незалежна ад веравызнаньня і грамадзкага стану, апынуліся абсалютна бяспраўнымі перад гэтай публікай. Імпэрскія ўлады пачуваліся на скароных тэрыторыях настолькі ўпэўнена, што з 1 студзеня 1874 году ўвялі на беларускіх землях усеагульную вайсковую павіннасьць... У Віцебску пачынаюць выдавацца «Полоцкие епархиальныя ведомости» (да 1917)...

Беларускае культурнае жыцьцё расьцярушанае. Адносна бясьпечна займацца толькі фальклёрам і старадаўняй гісторыяй. У 1874-м Іван Берман выдаў «Каляндар паводле народных паданьняў у Валожынскім прыходзе Віленскай губэрні Ашмянскага павету», Віленская археаграфічная камісія — «Пісцовую кнігу былога Пінскага старства, складзеную ў 1561—1566 пінскім і кобрыньскім старостам Лаўрынам Войнам», а таксама «Слоўнік старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і Царства Польскага», фальклярыст і этнограф Павал Шэйн — «Беларускія народныя песьні», больш за 1000 песьняў...

У Пецярбургу Іван Гласко засноўвае «Першы польска-беларускі сацыялістычны гурток». У Полацку паўстанец і біскуп Аляксандар Гінтаўт-Дзевалтоўскі будуе гімназію.

У 1874-м сканчаецца перабудова Нясьвіскага касьцёлу дамініканаў, у якім у наступным годзе будзе адчыненая настаўніцкая сэмінарыя. Сэмінарыя праіснуе да 1921 году, будынак зьнясуць пасьля другой сусьветнай. Выкладаць у сэмінарыі, як і ў іншых навучальных установах, паводле тагачаснага закону, мусілі «только истинно-русские учителя, настоящие великороссы из внутренних великорусских губерний». Тым ня менш, менавіта Нясьвіская сэмінарыя ў розныя часы дала такіх беларускіх творцаў як Якуб Колас, Кузьма Чорны, Адам Багдановіч, Сяргей Новік-Пяюн...

Да зьяўленьня «Дудкі Беларускай» застаецца 17 гадоў.

**Севярын Квяткоўскі**

Наша Ніва 90 гадоў таму

## Заморскі зьвер і тутэйшая лаза

...Даўно то даўно гэта было, але яшчэ помню, бо між намі кажучы, далі такі тады добра нам на памяць. Было так: Рыгор, Гаўрыла і я выбраліся ў горад з дровамі; дровы прадалі, зайшлі да Янкеля выпіць чарку, сядзім, калякаем; чуем — каля другога стала гамоняць аб усяляких зьверах заморскіх, якіх панавозілі цяпер у гэты горад. Гаўрыла і кажа да нас: браткі, лепш меней чарак вып'ем, а пойдзем паглядзець заморскую налпу. Добра, пайшлі; чаўпёмся па вуліцах, дапытваючыся, як і куды трапіць да гэтай заморскай зьверыны, аж тут нарываецца нейкі і кажа: хадзіце за мной, я вам пакажу налпу, і кошту ніякага ня будзе. Усьцешыліся мы; кацім за ім. Слухайце, дзядзькі, кажа да нас правадыр наш, паказаць налпу, то я вам пакажу, але сам з вамі не пайду, бо яна вельмі сярдзітая і ня любіць, каб хто другі раз прыходзіў глядзець на яе, а я ўжо раз быў. Праўда, сьпярша і па нашым целе забегалі мурашкі, але — было-не-было: вядзі, кажам. Завёў ён нас на нейкую вуліцу, збочыў у нейкі садок, ды і паказвае пальцам: бачыце, кажа, ун гэты жоўты дом і велізарны ганак пры ім, падыдзіце бліжэй і прыглядзьцеся — вось на крэсьле і сядзіць тая заморская налпа. Сунуліся мы бліжэй, угляваемся, — праўда: страшная, гарбатая, твар неяк сплюснуўшыся, дый амаль ня ўся ў валасах, але да чалавека надта падобная — і нават апрануўшыся зусім як пан які: апратка пекная, багатая, але і ўвагі на нас ніякай ня робіць, сядзіць і нават газэту чытае... ну, думаем сабе, хоць налпа, але як заморская, дык можа і ўмее чытаць? Асьмеліўшыся, сталі мы бліжэй падыходзіць, — нічога — сядзіць. Гаўрыла кажа: «братцы, — сьвісну я». — Сьвішчы, адказваем. — Сьвіснуў ён раз — нічога, сьвіснуў другі і трэці раз, ажно праўда — падняло гэтае зьвяр'ё галаву, дый лыпае на нас маленькімі вочкамі, але так неяк сьмешна, што мы ўсе ў рогат! Ажно, людцы вы мае, як запішчыць гэта яна на нас, і, хоць усяго не зразумелі, але лаянка зусім да нашай падобна, толькі яшчэ крапчэйшая! «Іш, ты, — кажа Рыгорка, — хоць заморская падла, а лаянкі тутэйшай скора навучылася». Дый яшчэ горш сталі рагатаць; а я, доўга не чакаючы — тыц ёй пад нос пугаўём. Браткі вы мае! Калі ўскочыць гэта яна, выхапіла нейкую дудачку, ды засьвішча, — ужо на што Гаўрыла быў здатны да гэтага, а так бы не патрапіў! Але ня доўга мы дзівavаліся, бо як віж наляцела паліцыя, і за карак, ды ў паліцыю. Там мы толькі даведаліся, што жулік нас падвёў, бо гэта не заморская налпа, а амаль ня першы чалавек у горадзе, але як людзі нам сказалі, надта падобны да налпы. Даведаліся мы ў паліцыі яшчэ нечага, але ўжо не заморскага, а тутэйшага — лазовага куста; а мне за тое, што ткнуў пугаўём гэную зьвярыну, зрабілі гонар — лішніх пятнаццаць усыпалі...

*Ядвігін Ш., Менск*

### прыватныя абвесткі

**Раблю пераклады** зь нямецкай і на нямецкую мовы. Шукаю іншую працу. Вольга. Тэл.: 285-16-13

**Шукаем сп. Анатоля Іванова,** або ягоных каардынатаў, або ягоных нашчадкаў з мэтай пакупкі права на пераклад і выданьне ў Польшчы ягонай кнігі «Неизвестный Дзержинский» (выд. «Валев», Менск, 1994). Наш E-mail: natalia_ws@zigzag.pl

**Набуду кнігу** У.Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі», а таксама зборнік «Беларускія летапісы і кронікі». Тэл.: (8-297) 54-1-25, Толік

**Малады Фронт** запрашае беларускую моладзь на свае пасяджаньні штoчацьвер а 19.00. Адрас: 220050, Менск, Варвашэні 8. Прыходзьце, пішыце, далучайцеся!

**Добры бізнэсмэн** з кватэрай у Менску пазнаёміцца зь дзяўчынай для стварэньня сям'і. Укладзіце капэрту з адрасам для адказу. 210015, Віцебск, а/я 34, Аляксандру

**Шырокі выбар** запісаў беларускай музыкі (рок, поп, джаз, барадаўская і клясычная музыка!). Тэл.: (017) 249-08-88. 220085, Менск а/с 5

**Куплю «Міты бацькаўшчыны»** Васілевіча, «Дамавікамэрон» А.Глёбуса, «Як пакахаць ружу» С.Кавалёва. Тацяна. Тэл.: 251-19-52, 220050, а/с 537

**Мяняю** 1-пак. кв. палепшанага пляну 18/36 кв.м., 3 пав., у Віцебску на кватэру ў любым горадзе Беларусі. 210021, Віцебск, а/с 21

**Пётар Васілевіч Гнедчык** са Смалявіч, куды Вы дзеліся? 222160, г.Жодзіна, а/с 39, Валера

**Валька Дрозд,** я цябе люблю. Валера Бацяноўскі, 222160, г.Жодзіна, а/с 39

**Беларус!** Далучайся да дзейнасьці навукова-дасьледчага таварыства імя К.Каліноўскага. Лістуйце: 224020, Берасьце-20, а/с 19

**Хутка ўбачыць сьвет** газэта беларускіх нацыяналістаў «Голас Краю». Сачыце за абвесткамі

**Мяняю** 1-пак. новую кватэру 19/37 кв. м., 4/5 пав. дому ў Віцебску на Менск. Даплачу 500 млн. руб. 210001, Віцебск, а/с 39

**Беларуская дашкольная адукацыя** й выхаваньне вашага дзіцяці (бяспл.). Кваліфікаваныя педагогі праводзяць штодзённыя заняткі (беларуская й ангельская мовы, маляваньне, музыка й сьпевы ды інш.) Тэл. у Смалявічах: (8-276) 43-2-82 (спытаць Яну)

**Відэафільм** «Пяты элемэнт» — напракат. Відэасалён на Маскоўскай, 16. Пытайцеся беларускамоўныя фільмы

**Сапраўдная незалежнасьць** — гэта грошы, чыстае сумленьне і добрае самаадчуваньне. Тэл.: 285-66-94. Андрэй

**Вітаю фэнаў** супэр-мэга-ультра-праекту «Карысныя выкапні». Адрас нашага фэн-клюбу: Менск-36, а/с 34

**Фэны «Карысных Выкапняў»** ужо выйшлі на вуліцы гораду!!! NRMаўцы — хавайцеся!

**Прывабны хлопчык-гей,** 18 гадоў, жадае пазнаёміцца з хлопцам-геем, дасьведчаным. Адкажу кожнаму. Віталь. 223710, Салігорск, да запатрабаваньня

**Usie, chto prahnie** listavańnia z nacyjanał-kanservatarami, arhanizatarami virtualnaha Sojmu 1999 r., listujcie na adras: E-mail: ivan@un.minsk.by. Žyvie Litva!

**Braty! Karaleŭstwa paŭstała** — naszy paŭsiudna bjuć maskaloŭ! Kroŭ, szto lijecca za Niomanam, klicza nas da zbroi! Boh dapamoža nam! Jaho mość Karol Polski i Wialiki Kniaź WKŁ Jan IV

**Прадаю танна** цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі на розныя тэмы, у добрым стане. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. 210021, Віцебск, а/с 21, Іне

**Бясплатна вышлем** Біблію, дзіцячую Біблію, касэты пра Бога. Капэрта, купон б/а. 210021, Віцебск, а/с 21

**Мілы Божа,** шануй усіх, хто Цябе кахае. Няхай беларусы нараджаюцца ва ўлоньні такіх, як ты — Moirgo

**Шукаю кантактаў** з тымі, хто жадае далучыцца да сапраўднага змаганьня за Беларусь. 220024, а/с 264, Яравіту

**20 кастрычніка** выйшаў 8-ы нумар газэты «Радавая Беларусь» — навіны й камэнтары з падзеяў у БНР і РБ. Кошт 20000. Адрас: а/с 169, 220030, Менск



**ПАЗНАЁМЛЮСЯ З ПЫШНАГРУДАЙ**
дзяўчынай, нацыяналісткай,
да 23 гадоў, рэлігійнай,
без фэміністычных схільнасьцяў,
якая любіць ды ўмее смачна гатаваць.
Аб сабе: 24 гады, бяз шкодных звычак,
але ня безь недахопаў для шлюбу.
*А/с 9, Гомель 8, Матроскін*

**Чалавек! Дапамажы падняць комікс-індустрыю ў Беларусі.**
Прагрэсыўна думаючы сцэнарыст!
Мастак і Мэры Джэйн чакаюць на цябе:
*230027, Горадня, а/с 105*

### паштовая скрынка



**Алесю К.** з Маладэчна. *Пазьбягайце надуманых пасылаў — такіх, як у водгуку «Нумар, які ня стаў правакацыяй». Маўляў, мог стаць, але ня стаў. Тое самае можна сказаць пра што заўгодна. Але зусім ня ўсё ў гэтым сьвеце «маецца стаць правакацыяй». У тым ліку і агляданы вамі часопіс, аўтары якога ўсяго толькі «хацелі рэканструяваць настрой часу». Для чаго зусім неабавязкова друкаваць тое, што адбылося менавіта ў тым часе. Тут яшчэ адзін надуманы пасыл.*

**Сяргею К.** *«Зімовы эцюд» занадта схематычны.*

**Марыі Ш.** *Тое самае. Ваш «Партрэт» пратэстуе супраць газэтных штампаў тымі ж, штампаванымі сродкамі.*

**Генадзю Д.** *Немагчыма перадаць адчуваньне, калі Вы яго проста апісваеце. «Паланіла яго волю і атручвала сьвядомасьць» — тут узьдзеяньне спакусы не адчуваецца, а толькі называецца. Для мастацкага тэксту гэта заганна. Роўна як і ўсялякія моўныя «прыўкраснасьці», сярод якіх русізмы выдаюць у аўтары нэафіта.*





**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________________________________

__________________________________________________

Імя і прозьвішча ____________________________________

Адрас, тэлефон _____________________________________


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.


 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3067. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 4:28, 01.11.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 5612. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д 8, кв. 173.